6 чэрвеня 2020 | № 21 (680)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Тадэвуш Касцюшка — герой чорнага Майдану?** Стар. 9





# Запыт на перамены



Сяргей ПУЛЬША



Фота Радыё Свабода

**Гэта электаральная кампанія становіцца ўсё больш цікавай. Падаецца, сцэнар, на які разлічвала ўлада — правесці выбары «як звычайна», — ужо трашчыць па швах. Людзі зноў пабачылі альтэрнатыву дзейснаму кіраўніку дзяржавы — і гэта ім спадабалася.**

## Чэргі, як па дэфіцыт

Выглядае, што «стомленасць Парыжам», то-бок адзіным нязменным кіраўніком дзяржавы, дасягнула свайго апагею. Цяпер палітыкай пачалі цікавіцца людзі, якія да гэтага часу яе цураліся. Яшчэ пару гадоў таму мая знаёмая на пытанне пра тое, чый Крым, адказвала, што расійскі. А цяпер, калі крама symbal.by на пачатку каронавіруснай навалы ўзялася выпускаць павязкі з нацыянальным арнаментам, яна папрасіла замовіць ёй некалькі такіх — прычым, не з нацыянальным арнаментам, а менавіта з бел-чырвона-белай стужкай.

Тэлефанавала маці з Гомеля, распавядала, што яе сяброўкі, якія палітыкай да гэтага ўвогуле не цікавіліся, запытваюцца ў яе, «дзе падпісацца за Бабарыку». З аднаго боку, гэта паказчык цікаўнасці да палітыкі, а з іншага — і пераможаная «местачковасць». Не было б дзівам, калі б яны запытвалі пра гамельчука Ціханоўскага, аднак не: іх кандыдат — банкір.

Ці не ўпершыню ад «ліхіх 90-х» мы пабачылі шматгадзінныя чэргі. Але чэргі не па дэфіцыт, а каб падпісацца за альтэрнатыўнага прэтэндэнта ў прэзідэнты. Прычым, людзі, адстаяўшы адну чаргу, перастройваюцца ў іншую. Раней, у 1990-х, так людзі бралі пральны парашок — і станавіліся па кілбасу. А цяпер, падпісаўшыся за Бабарыку, становяцца паставіць подпіс за Ціханоўскую, а пасля — за Цапкалу.

І гэта шмат каму дае надзею на тое, што ўрэшце ўлада ў Беларусі можа змяніцца.

## Лукашэнка супраць Маслоў

Канешне, людзі вельмі стаміліся ад таго, што 26 гадоў у краіне нічога не мяняецца. Яны незадаволеныя, што падае жыццёвы ўзровень, што ў краіне «брэжнеўскі застой». Але ў гэтым годзе ўлада перавысіла свой ліміт на памылкі.

Памятаеце «піраміду Маслоў» — піраміду патрэбаў чалавека? За фізіялагічнымі патрэбамі (ежа, пітво і гэтак далей) наступная прыступка — патрэба ў бяспецы. Потым — патрэба ў любові. Потым — патрэба ў павазе, потым — адукацыя, эстэтыка і гэтак далей.

У час каронавіруса ўлада поўнасцю праігнаравала гэтую піраміду. Дзяржава не забяспечыла «чарку і скварку», але людзі ўсё яшчэ цярпелі, бо можна было спасылацца на «аб'ектыўныя абставіны», дый голаду ў краіне не відно. Але затым кіраўнік краіны не тое што не забяспечыў бяспеку людзей — ён відавочна грэбаваў гэтай бяспекай. Не зважаючы на каронавірус, ён паставіў пад небяспеку дзяцей (памятаем, што менавіта ён загадваў не закрываць на каранцін школы) і беларусаў сталага веку (узгадаем парад). Парушыў патрэбу ў любові і павазе, абразліва выказваючыся пра памерлых. Хлусіў наконт узроўню захворвання, пераконваючы, што «вірус — гэта палітыка», у той час, калі дактары валіліся з ног, не паспяваючы прымаць пацыентаў.

**Кіраўнік краіны не тое што не забяспечыў бяспеку людзей — ён відавочна грэбаваў гэтай бяспекай**

Абрынулася менавіта тое, на чым трымаўся міф пра «дзяржаву для народа» — «лепшая ў свеце» медыцына, «лепшая ў свеце» адукацыя, міф пра «IT-краіну». І ўвогуле развалілася казка пра «моцную і квітнеючую Беларусь». Адна справа — калі падаюць заробкі, гэта яшчэ можна трываць. Іншая — калі ўзнікае пагроза жыццю і здароўю. Неадэкватныя дзеянні ўлады ў крызіснай сітуацыі выклікалі цалкам адэкватную рэакцыю грамадства — жаданне змяніць уладу на больш адказную.

Гэтым скарыстаўся, прынамсі, Віктар Бабарыка. Ва ўсіх сваіх інтэрв'ю ён падкрэслівае, што ён — проста адэкватны чалавек. У гэтым і сакрэт яго папулярнасці.

## Запыт на перамены

Улада грэбуе людзьмі — людзі адказваюць уладзе. У штабе Святланы Ціханоўскай, якая нечакана стала кандыдаткай на вышэйшую дзяржаўную пасаду замест свайго мужа, шчыра прызнаваліся — яны не паспяваюць падлічваць і правяраць подпісы. Віктар Бабарыка заявіў, што за яго ўжо сабраныя неабходныя для рэгістрацыі 100 тысяч подпісаў. Што не дзіва — за 10 дзён з пачатку збору 10 тысяч чальцоў яго ініцыятыўнай групы лёгка маглі сабраць па 10 подпісаў «на нос». Аднак Бабарыка абвясціў, што ў яго ў мэтах — сабраць мільён подпісаў у сваю падтрымку.

Штаб Валерыя Цапкалы паведаміў, што ў падтрымку экс-дырэктара ПВТ сабрана амаль 50 тысяч подпісаў. Экс-дэпутатка Ганна Канапацкая распавяла, што ў яе ёсць 30 тысяч подпісаў, і не выключыла, што яе група зможа пераадолець неабходны парог праз 2 тыдні.

Працяг на стар. 5 »

# Тры гады ў адзіночнай камеры

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Пасля доўгага перапынку я атрымаў ліст ад «сядзельца» ПК-9 у Горках, палітвязня Міхаіла Жамчужнага. Ён паведамляе, што ў жніўні будзе адзначаць не толькі 65-годдзе, але і трохгадовы тэрмін знаходжання ў адзіночнай камеры Горацкай калоніі.**

З гэтага тэрміну амаль два гады — у ШІЗА (штрафным ізалятары). Гэта — бетонны пенал з умантаванай у сцяну «шконкай», якая адкрываецца толькі ў начны час. Для «поўнага шчасця» арыштанту СІЗА даецца ручнік, тэпцікі і рулон туалетнай паперы.

Вяртанне з «віцебскага этапу» ў ПК-9 Жамчужны пачаў з «наведвання» ў чарговы раз штрафнога ізалятару. Цяпер ён — на «льготным рэжыме», а менавіта: у памяшканні камернага тыпу, дзе дазваляецца сядзець, атрымліваць поўнае харчаванне, а таксама рэалізоўваць права на перапіску.

Жамчужны не адразу даведаўся, што краіну накрыў каронавірус і, як ён жартуе, многія з тых, хто на волі, пазайздросцілі б яго адзіноце. Для яго перапіска — адзіная камунікацыя, якая не дазваляе яму звар'яцець. Ён удзячны ўсім, хто яго не забывае (канкрэтна ён згадвае Леаніда Свеціка, Насту Лойка, Вольгу Нікалайчык).

# Каронавірус блукаў па Еўропе яшчэ ўвосень

**Каронавірус мог блукаць па Еўропе задоўга да таго, як пра яго даведаўся ўвесь свет. Так сцвярджае доктар Іў Коэн, загадчык аддзялення рэанімацыі ў парыжскай бальніцы імя Авіцэны, паведамляе euronews.com.**

Іў Коэн вырашыў перагледзець справы пацыентаў, якім тады паставілі дыягназ «пнеўманія», і зноў праверыць аналізы, якія былі негатыўнымі на ўсе вядомыя на той час вірусы.

Адзін з 14 аналізаў аказаўся станоўчым на COVID-19.

Гэты «адзін» — 53-гадовы мужчына, які паступіў 27 снежня. Гэта значыць, яшчэ да таго, як Кітай паведаміў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя пра новы вірус. Ва ўсякім выпадку, у Еўропе гэта пакуль самы ранні медыцынскі пацверджаны выпадак.

Такім чынам, патаген у раёне Парыжа прысутнічаў ужо ў снежні мінулага года. Даклад падкрэслівае важнасць перагляду старых аналізаў для таго, каб лепш зразумець цяперашнюю пандэмію і лепш падрыхтавацца да магчымых будучых эпідэмій. Падобна на тое, што вірус дабраўся да Еўропы значна раней, чым усе думалі. Прычым цалкам магчыма, што нават раней, чым пра каронавірус пачулі ў Кітаі: лекары бальніцы ў Кальмар на ўсходзе Францыі кажуць пра сярэдзіну лістапада. Яны апублікавалі рэнтгенаўскія здымкі лёгкіх аднаго з пацыентаў. Па іх словах, там бачныя «тыповыя для COVID-19 анамаліі».

# Па ўсёй краіне — затрыманні і ператрусы

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ужо на этапе збору подпісаў за прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ўлады пачалі ўжываць брутальныя захады, каб задушыць звязаны з гэтым народны ўздым.**

Паводле звестак праваабаронцаў, з 6 па 31 траўня па ўсёй Беларусі затрымалі 195 чалавек, адбылося 155 судовых працэсаў па адміністрацыйных справах (з іх 135 судоў за несанкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы) у дачыненні як мінімум да 132 чалавек. У выніку былі арыштаваныя 69 чалавек, 72 чалавекі аштрафаваныя. Але на пачатку чэрвеня затрыманні, арышты і ператрусы працягнуліся.

Пасля падзей 6 траўня, калі затрымалі блогера Сяргея Ціханоўскага, а пазней — людзей, якія выйшлі яго падтрымаць, рэпрэсіі сціхлі ненадоўга. Іх апагей здарыўся 29 траўня ў Гродне — тады былі затрыманыя 10 чалавек, што бралі ўдзел у пікеце па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай. Кіраўнік ініцыятыўнай групы Сяргей Ціханоўскі таксама быў затрыманы. Пазней прэс-служба МУС паведаміла аб узбуджэнні крымінальнай справы ў сувязі з прымяненнем гвалту ў дачыненні да міліцыянта. Ціханоўскі і яшчэ сямёра затрыманых цяпер знаходзяцца ў ІЧУ Мінска.

У той час, як дзяржаўныя СМІ паспяшаліся абвінавачаць удзельнікаў пікету ў парушэнні грамадскага парадку і нападзе на супрацоўніка міліцыі, праваабарончая супольнасць прызнала Ціханоўскага палітычным зняволеным, а таксама выступіла з патрабаваннем аб вызваленні яго і іншых затрыманых, не датычных да ўжывання гвалту да супрацоўнікаў міліцыі.

Чарговая хваля затрыманняў сяброў ініцыятыўнай групы і прыхільнікаў Святланы Ціханоўскай, а таксама іншых актывістаў пракацілася па краіне 30 і 31 траўня. Усяго праваабаронцам вядома пра больш чым 30 затрыманых, і гэтая лічба расце.

Супрацоўнікі міліцыі дзяжурылі 31 траўня і каля дома палітыка Міколы Статкевіча. Каля 12:30 яго затрымалі людзі ў цывільным па дарозе на пікет на Камароўскім рынку ў Мінску. Пазней Статкевічу прысудзілі 15 сутак арышту.

Таксама 31 траўня ў Мінску быў затрыманы лідар «Маладога фронту» Дзяніс Урбановіч. Актывіст «Маладога фронту» Віталь Трыгубаў паспеў падзяліцца ў Facebook відэа, на якім бачна, як затрымліваюць яго самога, а таксама актывістаў Андрэя Войніча і Максіма Вінярскага. Мікрааўтобус спыніў таксі, дзе яны ехалі, затым пачалося затрыманне. Быў затрыманы таксама кіроўца таксі. Пазней Андрэй Войніч, Вінярскі і Урбановіч атрымалі па 15 сутак арышту.

Увечары 31 траўня ў Гродне затрымалі ўдзельнікаў каманды «Краіны для жыцця» Арцёма Сакава і Канстанціна Сярогіна. Пазней стала вядома, што Арцём Сакаў затрыманы Ленінскім аддзелам унутраных спраў Гродна на 3 сутак у межах крымінальнай справы. Канстанціна Сярогіна адпусцілі днём 1 чэрвеня.

Раніцай 3 чэрвеня быў затрыманы Валянцін Троцкі. А 12:16 тэлеграм-канал «Шэры кот» паведаміў, што ў Полацку трое ў цывільным прыехалі дадому да блогера Алеся Круткіна. Увечары стала вядома, што яго затрымалі ў АМАП. У Наваполацку ў той жа дзень затрымалі Андрэя Зуева, які з'яўляецца чальцом ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай. Ён распавёў, што 2 чэрвеня да яго ў кватэру грукаліся міліцыянеры, а потым пільнавалі яго пад домам. Раней Зуеў адбываў 7 сутак арышту за ўдзел у стрыме Ціханоўскага.

Таксама 3 чэрвеня на выхадзе з уласнай кватэры быў затрыманы першы сакратар «Маладога фронту» Максім Урбановіч. Сябры даведаліся, што актывіст у ЦІП на Акрэсціна.

У Цэнтральным судзе Мінска 3 чэрвеня адбыліся працэсы над удзельнікамі пікетаў па зборы подпісаў Дзмітрыем Казловым (блогер Шэры кот) і выканаўцам абавязкаў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалаем Казловым. Абодва атрымалі штрафы ў 50 базавых.

Увечары стала вядома, што траіх затрыманых пасля інцыдэнту ў Гродне 29 траўня перавялі ў СІЗА-1 на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Гэта Яўген Рэзнічэнка, Вяргілій Ушак і Аляксандр Арановіч. Вяргілій Ушак абвясціў галадоўку. Праваабаронцы мяркуюць, што перавод затрыманых у СІЗА — дрэнны знак: значыць, адпускаць іх не збіраюцца.

Раніцай 4 чэрвеня фермер з Мазырскага раёна Аляксандр Сіраш паведаміў, што да яго ў дом уначы ўварваліся супрацоўнікі праваахоўных органаў і пачалі ператрус. Таксама з Мазыра паведамілі пра затрыманне Аляксандра Цуканава, аўтара YouTube-канала «Мозырь для жизни», які толькі 2 чэрвеня вызваліўся пасля адбыцця 25 сутак арышту за ўдзел у сустрэчы з Сяргеем Ціханоўскім у Мазыры 3 траўня. Затрыманы сябар Цуканава Дзяніс (прозвішча высвятляецца), які прыходзіў падтрымаць Аляксандра ў суд і сустракаў яго падчас вызвалення з ІЧУ.

Спіс ахвяр міліцэйскага гвалту няпоўны: сюды не ўвайшлі імёны дзясяткаў актывістаў па ўсёй краіне, якіх затрымлівалі на некалькі гадзін, а пасля адпускалі са складаннем пратаколаў ці без.

# Хто ўсе гэтыя людзі?

Сяргей ПУЛЬША

**Кіраўнік Беларусі — усё ж чалавек вясёлы. Увечары 3 чэрвеня ён адправіў урад у адстаўку, а ўжо 4 чэрвеня ў нас з'явіўся новы прэм'ер. Дый увогуле, ад новых прызначэнняў не ведаеш, ці то смяяцца, ці то плакаць.**

Пасля «эканаміста, банкіра, рыначніка» Сяргея Румаса ўрад узначаліў старшыня (ужо былы) Дзяржкамваенпраму Беларусі Раман Галоўчанка. У прынцыпе, такое прызначэнне апраўданае. Усё роўна беларускі ўрад нічога не вырашае, і, паводле трапнага выразу палітолага Аляксандра Класкоўскага, на яго чале «хоць Бальцаровіча ў квадраце пастаў — ён вышэй поясу не скокне». Эканоміка ў нас кіраваная ў «ручным рэжыме», а ля стырна — самі-ведаеце-хто.

Раней Галоўчанка працаваў у Савеце бяспекі, пракуратуры, і нават паслом пабыць паслом у Арабскіх Эміратах. Прызначэнне прэм'ерам чалавека ваеннага выглядае нават лагічна: ён умее выконваць загады і па яго працоўнай біяграфіі бачна, што працуе там, куды накіруюць. А значыць, на пасадзе прэм'ера будзе выконваць загады. Скажа яму Лукашэнка сеяць — будзе сеяць, скажа саджаць — будзе саджаць. Больш ад яго, у прынцыпе, нічога і не патрабуецца.

Да таго ж яго наменнікам прызначаны Мікалай Снапкоў, былы міністр эканомікі ў 2009 — 2014 гадах. Памятаеце крызісы 2009, 2011 і 2014 гадоў? Усё здарылася пры Снапкове.

Былы першы віцэ-прэм'ер Дзмітрый Крутой сыходзіць на пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, на тое месца, адкуль уласна, і з'явіўся Снапкоў.

Кіраўніком Дзяржкантролю Беларусі прызначаны «ляснік», экс-кіраўнік Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Юрый Церцель. То-бок, раней ён пільнаваў жывёлаў, а цяпер будзе пільнаваць людзей. Ці то для Лукашэнкі наш народ больш не «народзец», а наўпрост дзікія жывёлы, ці то ён лічыць, што беларусы — усе партызаны, а партызанам якраз патрэбны лясны кантроль.

Юрый Селіверстаў з намесніка міністра фінансаў стаў міністрам. На міністра прамысловасці прыйшоў экс-гендырэктар БелАЗу Пётр Пархомчык. Што цікава, як і фінансавыя паказчыкі БелАЗу за мінулы год. Выручка кампаніі скарацілася на 22,6%, прыбытак ад рэалізацыі — на 25,2%, чысты прыбытак — на 19,1%. За 2019 год у БелАЗа рэзка вырасла доўгатэрміновая дэбіторка — з 61 да 141,4 млн рублёў, запасы гатовай прадукцыі — з 196,3 да 319,9 млн рублёў, даўгі па кароткатэрміновых крэдытах і пазыках — з 374,4 да 780,3 млн рублёў.

А гендырэктара за гэта — на міністра! Падаецца, проста «харошага чалавека» вызвалілі ад адказнасці.

Міністрам інфармацыі стаў Ігар Слуцкі, экс-гендырэктар тэлеканала «СТВ». У прынцыпе, слушна: тэлебачанне ўжо амаль ніхто не глядзіць, асабліва беларускае.

Андрэй Хмель стаў міністрам ЖКГ, Дзмітрый Матусевіч цяпер — кіраўнік Дзяржкамітэта па маёмасці, Дзмітрый Пантус — старшыня Дзяржкамваенпрама. Наўрад ці гэтыя імёны нешта камусьці скажуць, і ўвогуле застануцца ў памяці.

Карацей, новапрызначаныя людзі ва ўрадзе — асобы, пра якіх мала хто нешта ведае, якія не былі на слыху і якія нічым, падаецца, у мінулым не запомніліся. Фактычна гэта азначае, што ўсіх больш-менш заўважных і адметных Лукашэнка ўжо перабраў. І ў яго проста няма каго прызначаць на адказныя пасады. Як кажуць пра такую сітуацыю — «кароткая лава запасных».

Дык, падаецца, гэтых «запасных» не засталося ўвогуле. Ніхто з дзейсным кіраўніком працаваць не жадае.

Ці, можа, урад канчаткова ператварыўся ў тое самае, чым яшчэ раней стала верхняя палата беларускага парламента — Савет Рэспублікі. Урад нічога не вырашае, ні на што не ўплывае і нічым не займаецца. Дык чаму б і яго не зрабіць сінекурай для рознага кшталту пенсіянераў — калі не па ўзросце, дык маральна? Усё роўна ж (у трэці раз паўтаруся) усе рашэнні ў краіне прымае адзін чалавек.

А Румас... Румас падаўся ў бізнес. Далей ад улады.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як купіць электарат

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У мінулым аглядзе мы згадвалі пра тое, што Лукашэнка падпісаў указ пра падтрымку бюджэтнікаў, якія з-за прастою і рэжыму няпоўнай занятасці атрымалі заробак, меншы за мінімальны. Гэты мінімальны заробак цяпер складае 375 рублёў.**



Малюнак www.ktoNaNovenkogo.ru

Але ж мы не думалі, што высветліцца, калі гэты ўказ паспрабуюць увесці ў дзеянне. А сітуацыя — вельмі і вельмі гаротная. Па словах міністра працы і сацыяльнай абароны Ірыны Касцевіч, сёлета ў Беларусі прастойвае ў чатыры разы больш прадпрыемстваў, чым летась. Агулам на падтрымку бюджэтнікаў спатрэбіцца 180 мільёнаў рублёў. Міністарка не агучыла, колькі менавіта чалавек атрымаюць такую падтрымку, але адзначыла, што вымушаная няпоўная занятасць у красавіку павялічылася ў 4,3 раза ў дачыненні да адпаведнага перыяду мінулага года.

Калі падзяліць 180 мільёнаў рублёў на мінімальны заробак у 375 рублёў, атрымаецца, што можна заплаціць «мінімалку» 480 тысячам чалавек. А калі ўлічыць, што заробак не можа быць нуль рублёў, то гэтых грошай можа хапіць на амаль мільён выплатаў.

Але насамрэч — гэтак толькі выглядае. Нашая «дзяржава для народа» не была б такой дзяржавай, каб не паклапацілася, у першую чаргу, пра сябе. Народу з гэтай сумы прызначана толькі 135 мільёнаў рублёў, а 45 мільёнаў пойдуць у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Нягледзячы на тое, што гэты ФСЗН і так рэгулярна цягне грошы з бюджэту.

Затое мы Парад Перамогі правялі за такія грошы, якія Міністэрства абароны традыцыйна не агучвае. Паводле падлікаў незалежных экспертаў, парад абыходзіцца крыху больш чым у 2 мільёны долараў. У параўнанні са 135 мільёнамі рублёў падтрымкі — сума невялікая, але ж «капейчына да капейчыны»... У нас яшчэ і «Славянскі базар» наперадзе.

Эканамісты адзначаюць, што гэтых грошай для «падтрымкі штаноў» бюджэтнікам хопіць літаральна на два месяцы. І гэта вельмі цікавы факт. Калі іх сапраўды хопіць на чэрвень-ліпень, то 9 жніўня — прэзідэнцкія выбары. То-бок, падаецца, што ўлады гэтым указам проста «купляюць галасы» бюджэтнікаў. А пасля выбараў падтрымка скончыцца, і, як гэта ў нас зазвычай бывае, улады скажуць: «Выжывайце як хочаце. На дзвюх-трох працах пакруціцеся». Затое хранічную «дзірку» ў ФСЗН падлаталі.

Дарэчы, пра выбары. Вельмі цікавай падалася заява, прынятая на тыдні не кім-небудзь, а Пастаяннай камісіяй Палаты прадстаўнікоў па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце. Камісія выказала занепакоенасць існуючай сітуацыяй.

«Лічым недапушчальным выкарыстанне фармату збору подпісаў не для падтрымкі патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, а ў мэтах маніпулявання свядомасцю людзей, нагнятання сацыяльнай напружанасці і спекуляцыі на складанай эканамічнай і санітарна-эпідэміялагічнай сітуацыі, з наступствамі якой сёння змагаюцца ўсе краіны свету», — гаворыцца ў заяве.

Па-першае, так і хочацца адзначыць: «Не гудзі, а на сябе паглядзі». Прызначаныя дэпутатамі асобы раптам выказаліся супраць «маніпулявання свядомасцю людзей»! Па-другое, з кожнага праса нам вышэйшы кіраўнік гэтых парламентароў казаў, што ў нас няма аніякай «складанай санітарна-эпідэміялагічнай сітуацыі»: каранцін не ўводзілі, школы працавалі, і ўвогуле, усё гэта «каронапсіхоз». Што ж «дэпутаты» яму не запярэчылі? Па-трэцяе, каму, як не народным абраннікам, прымаць законы, каб у нас не было «складанай эканамічнай сітуацыі»? Хто ў ёй вінаваты? Ці толькі Аляксандр Рыгоравіч, альбо і тыя, хто аднагалосна прымае бюджэт з выдаткамі на парады, «Славянскія базары» ды спартовыя ідовішчы ў час пандэміі? Дый прымае гэты бюджэт за лічаныя хвіліны?

Не так даўно «Беларуская сацыялагічная майстэрня» апублікавала звесткі пра эканамічнае самаадчуванне беларусаў. У снежні сітуацыяй у краіне былі незадаволеныя 38%, а ў сакавіку паказчык вырас да 61%. Таму не дзіўна, што да альтэрнатыўных Лукашэнку прэтэндэнтаў на кіраўніка краіны выстройваюцца чэргі жадаючых паставіць подпіс, каб падтрымаць іншы курс. Добры гэта будзе курс ці дрэнны — невядома, але ён будзе іншы. І пакуль народу гэтага дастаткова.

Больш за тое, «дэпутаты» заклікалі грамадзян «не паддавацца на правакацыі», а ўдзельнікаў палітычнага працэсу — «устрымацца ад папулісцкіх дэкларацый». Гэта кажуць тыя, хто як адзін, выступаў за развіццё спорту, здаровага ладу жыцця і гэтак далей. А на справе?

На справе інтэрнэт-выданне Naviny.by атрымала праект указа кіраўніка дзяржавы «Аб ажыццяўленні рознічнага гандлю з прымяненнем інтэрнэт-тэхналогій». У ім прадугледжана тое, чаго доўгі час дамагаліся рытэйлы і алкагольнае лобі. У «мэтах скарачэння неабавязковых кантактаў фізічных асоб у перыяд пагрозы распаўсюджвання інфекцыі, выкліканай каронавірусам COVID-19», з 1 ліпеня па 31 снежня гэтага года праз інтэрнэт можна будзе гандляваць тытунёвымі вырабамі, алкагольнымі і слабаалкагольнымі напоямі, уключаючы віно і піва з аб'ёмнай доляй этылавага спірту менш 7%.

Правы на інтэрнэт-гандаль атрымаюць юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі на падставе спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі). Прычым ІП дазволяць гандляваць алкагольнымі напоямі толькі ў сельскай мясцовасці, дзе ўказам №345 устаноўлены асаблівы рэжым падаткаабкладання. Ёсць, канешне, пэўныя абмежаванні — у адны рукі можна будзе купіць не больш за пяць літраў алкагольных напояў пры адначасовай замове харчовых тавараў на суму не менш за 30 рублёў.

Крыніца Naviny.by у алкагольнай сферы выказала спадзяванне, што гэты гандаль будзе «ў парадку эксперыменту», а ўжо далей прымуць рашэнне — зрабіць гэта на пастаяннай аснове. А пасля Новага года могуць дазволіць прадаваць і імпартны алкаголь праз інтэрнэт.

Паводле звестак Міністэрства аховы здароўя, спажыванне алкаголю ў Беларусі на 40% перавышае дапушчальны ўзровень. Паводле Міністэрства ўнутраных спраў, кожнае чацвёртае злачынства ў краіне ўчыняецца ў стане алкагольнага ап'янення. Дзяржава штогод выдаткоўвае 2% ВУП на пераадоленне негатыўных наступстваў, звязаных з празмерным ужываннем алкаголю.

Але ніводзін дэпутат нічога не сказаў адносна праекта гэтага ўказу.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч

**Апазіцыйны палітык асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у цалкам легальным пікеце па зборы подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты.**



Судовы працэс адбыўся ў судзе Ленінскага раёна Мінска. Статкевіч прызнаны вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў. На думку суда, 24 траўня каля Камароўскага рынку Статкевіч «прыняў удзел у мітынгу без адпаведнага дазволу Мінгарвыканкама, парушыўшы закон аб масавых мерапрыемствах», а таксама «публічна выказваў сваю незадаволенасць і негатыўнае стаўленне да дзеючай улады, падзеяў грамадска-палітычнага жыцця».

Як паведамлялася, Статкевіч быў затрыманы ў мінулую нядзелю па дарозе на Камароўскі рынак у Мінску для ўдзелу ў чарговым пікеце па зборы подпісаў.

Назіральнікі адзначаюць, што рэпрэсіі сёлета ўзмацніліся на вельмі раннім этапе прэзідэнцкай кампаніі. У той жа час арышты не засталіся незаўважанымі. Старшыня дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Роберт Бедрань і пастаянны дакладчык па Беларусі Петрас Аўштравічус выказалі «глыбокую занепакоенасць» дзеяннямі ўладаў, а Парламенцкая асамблея АБСЕ заклікала беларускія ўлады зрабіць «усё магчымае для стварэння паўнавартаснага адкрытага асяроддзя для выбарчай кампаніі».

## Лідзія Ярмошына

**Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі пацвердзіла — яе ведамства дыскрымінуе і будзе надалей дыскрымінаваць беларускую мову.**



Гэта вынікае з адказу ЦВК гродзенскім праваабаронцам на іх зварот наконт дыскрымінацыі мовы. Праваабаронцы звярнулі ўвагу, што сайт ЦВК інфармуе грамадзян Беларусі пра бягучыя выбары толькі на рускай мове, а на беларускамоўнай версіі сайта няма рубрыкі «Выбары–2020» з навінамі па-беларуску, і ўказвалі на недапушчальнасць дыскрымінацыі беларускай мовы і беларускамоўных выбарцаў па моўнай прыкмеце.

Ярмошына ў афіцыйным адказе сцвярджае, што рубрыка «Выборы–2020» вядзецца па рускай мове, «паколькі на гэтай мове вядзецца справаводства Цэнтральнай камісіі». Яна лічыць, што законна не мае абавязку весці рубрыку і на беларускай мове, якая з'яўляецца адной з дзвюх дзяржаўных моваў.

Гродзенскія праваабаронцы назвалі такі адказ пацвярджэннем дыскрымінацыі дзяржаўнай беларускай мовы ЦВК, а пазіцыю яе старшыні — цынічнай і абразлівай у дачыненні да карэннай тытульнай нацыі дзяржавы.

Фактычна карыстальнікі беларускамоўнай версіі сайта не могуць даведацца пра ход цяперашняй выбарчай кампаніі. Сярод «галоўных падзей» на беларускамоўнай старонцы сайта — выбары дэпутатаў ніжняй палаты Рэспублікі Таджыкістан, выбары ў Мілі Меджліс Азербайджанскай Рэспублікі і гэтак далей.



## Генадзь Мардас

**За паўтара тыдня да свайго 50-годдзя пайшоў з жыцця знакаміты беларускі футбаліст, капітан БАТЭ Генадзь Мардас.**

За час футбольнай кар'еры выступаў у амплуа абаронцы, пагуляў за шэраг беларускіх і ўкраінскіх клубаў, сярод якіх «Прамень», «Нёман», БАТЭ, «Смаргонь», «Заря» і «Таўрыя».

Як паведамілі ў прэс-службе барысаўскага клуба, Мардас «зрабіў важкі ўнёсак у заваяванне залатых медалёў вышэйшай лігі–2002, разам з "жоўта-сінімі" тройчы станавіўся сярэбраным і адзін раз — бронзавым прызёрам чэмпіянатаў краіны».

Усяго ў складзе БАТЭ ён правёў 147 афіцыйных матчаў (56 разоў выводзіў каманду на поле ў ролі капітана). Некалькі гадоў таму ў яго дыягнаставалі рак.

Выказваем шчырыя спачуванні родным і сябрам Генадзя Мардаса.

а | Азбука паліталогіі

# Пра мужыкоў, бабаў і слоўнікавы запас



Сяргей НІКАЛЮК

**Галоўны герой маёй «Азбукі паліталогіі» пастаянна папаўняе свой слоўнікавы запас. Інакш статус адзінага палітыка не ўтрымаць, бо «хто не гаворыць, той слухае, а хто слухае, той слухаецца».**

Выдатная думка. Жывы прыклад адзінства формы і зместу. Яе аўтар —Уладзіслаў Суркоў. У сваім уменні ісці ад жыцця ён, мабыць, не саступіць адзінаму палітыку (АП). Суркоў служыў у ГРУ, працаваў токарам, кіраваў самадзейным тэатрам і дакіраваўся да пасады памочніка прэзідэнта РФ.

Але я адышоў ад тэмы. Слоўнікавы запас АП за апошнія месяцы папоўніўся дзеясловам «хайпіць» (ад англійскага назоўніка «hype», які азначае агрэсіўную і дакучлівую рэкламу, мэтай якой з'яўляецца фарміраванне густаў і ўпадабанняў спажыўца).

У працэсе асваення новага слова мой герой надаў яму негатыўную канатацыю і тут жа кінуў на пярэдні край ідэалагічнай барацьбы, каб дыскрэдытаваць нашы старыя знаёмыя словы — «інтэрнэт» і «апазіцыя». Абмяжуюся адным прыкладам: «Хтосьці хайпуе, хтосьці яшчэ нешта робіць у інтэрнэце. Наша справа — працаваць. Пройдзе крыху часу, і людзі ацэняць і зразумеюць, хто чаго варты» (3 красавіка, рабочая паездка ў Смалявіцкі раён Мінскай вобласці).

«Мова ёсць дом быцця», — справядліва заўважыў нямецкі філосаф Марцін Хайдэгер. З гэтага вынікае, што для чалавека сапраўды існуе толькі тое, што можа быць апісана словамі. З гэтага гледзішча я і прапаную перачытаць выказванне АП. Пажадана зрабіць гэта двойчы.

### Такі вось узровень грамадзянскай адказнасці

Свет АП — гэта класічны чорна-белы свет. Усіх, каму выпала шчасце існаваць у гэтым свеце, ён дзеліць на тых, хто працуе, і тых, хто хайпуе ў інтэрнэце. Аддзяліць адных ад другіх — задачка на першы погляд руцінная, але толькі на першы погляд. Калі ж прыгледзецца больш уважліва, то ў ёй заўважны біблейскі маштаб: «Калі ж прыйдзе Сын Чалавечы ў славе Сваёй і ўсе святыя Анёлы з Ім, тады сядзе на троне славы Сваёй, і збяруцца перад Ім усе народы; і аддзеліць адных ад другіх, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў; і паставіць авечак праваруч ад сябе, а казлоў — леваруч» (Евангелле ад Матфея, раздзел 25, вершы 31–33).

Для таго, каб аддзяліць сучасных авечак ад казлоў, і існуюць выбары. Механізм гэты грувасткі і спажывае шмат рэсурсаў. У Беларусі яго эфектыўнасць знаходзіцца ў прамой залежнасці ад сілы ўлады. Прыгадаем «ліхія 90-я» з іх разгулам дэмакратыі. Хто за каго хацеў, той за таго і галасаваў, а многія да таго расперазаліся, што наогул адмаўляліся выконваць свой грамадзянскі абавязак.

Адпаведна электарату паводзілі сябе і работнікі ўчастковых выбарчых камісій. Яны лічылі галасы па факце, што рэгулярна прыводзіла да адмены вынікаў галасавання з-за нізкай яўкі. На шчасце, усё гэта ў мінулым.

Неспадзяванкі, зразумела, перыядычна здараюцца. Самая вядомая адбылася ў 2012 годзе ў Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе №36, па якой у якасці кандыдата ўлады ў Палату прадстаўнікоў балатаваўся памочнік АП Ігар Пракапенка. Аднак у заканадаўчы рай яго не пусцілі грахі, і без пяці хвілін дэпутат напярэдадні галасавання быў арыштаваны ў межах справы аб кватэрных махінацыях у Гомельскім УКБ.

Здавалася б, у яго апанента, вылучэнца ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргея Мельнікава, верагоднасць быць абраным наблізілася да 100%. Але ж не! Вы не паверыце, але сваё слова нечакана сказаў электарат: 43,8% выбаршчыкаў адмовіліся ад выканання свайго грамадзянскага абавязку, а 81,1% ад тых, хто прыняў удзел у галасаванні, прагаласавалі супраць усіх, што і варта было чакаць у сувязі з адсутнасцю «правільнага» кандыдата. Такі вось узровень грамадзянскай адказнасці. Умеем жа, калі хочам, дагадзіць начальству!

### Якая глыбокая думка!

Даследчыкам, якія вывучаюць беларускую мадэль, пашанцавала. Прычыну гэтага шанцавання лёгка зразумець, калі прыгадаць прыказку: «Язык мой — вораг мой». Усе мы не без граху, і схільнасць казаць лішняе — адзін з грахоў. Да гэтага нас часам падштурхоўваюць завышаная канцэнтрацыя алкаголю ў крыві або наяўнасць у кампаніі прыгожай жанчыны.

Але АП — асобны выпадак. Чвэрць стагоддзя знаходжання на пасадзе, якая не прадугледжвае наяўнасці апанентаў, не прайшла б бясследна і для чалавека па прыродзе нясмелага ды сарамлівага. Што ўжо казаць пра тыповага халерыка...




Прывяду адно з апошніх яго адкрыццяў: «У нас Канстытуцыя не пад жанчыну. І ў нас грамадства не саспела для таго, каб галасаваць за жанчыну. Потым, у нас — не Літва. Там прэзідэнт, была Даля Грыбаўскайтэ, прыйшла, паўсміхалася, пасядзела і пайшла. Ні за што не адказвае, таму што там парламенцкая рэспубліка. У нас — не. Прэзідэнт будзе мужык, я ў гэтым абсалютна перакананы» (29 траўня 2020 года падчас наведвання Мінскага трактарнага завода).

**У 1996 годзе Асноўны закон падкарэктавалі. З тых часоў мінулі 24 гады. І за што ж наш «мужык» хоць раз адказаў? Можа, пра гэта варта пацікавіцца ў родных Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара?**

Мова ёсць дом быцця. Такім чынам, за словамі стаіць карціна свету, сістэма каштоўнасцяў таго, хто гаворыць. Параўноўваць жа парламент з гаварыльняй схільныя практычна ўсе архітэктары ўладных вертыкаляў. Гісторыя ведае шмат падобных прыкладаў.

Між іншым, першая беларуская Канстытуцыя, якая не прадугледжвае мужыка ў якасці прэзідэнта, не перашкодзіла ў студзені 1994 года зняць Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савета. У 1996 годзе Асноўны закон падкарэктавалі. З тых часоў мінулі 24 гады. І за што ж наш «мужык» хоць раз адказаў? Можа, пра гэта варта пацікавіцца ў родных Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара?

Але вернемся на Мінскі трактарны завод: «Канкурэнцыя па вашай прадукцыі каласальная. Задача адна — якасць. Гэта галоўнае пытанне нашай машынабудаўнічай краіны, і перш за ўсё МТЗ. Вось адзіная мая просьба і жорсткае патрабаванне да вас усіх».

Якая глыбокая думка! Самі трактарабудаўнікі да такога ўзроўню абагульнення падняцца не змаглі б, а тым больш аформіць яго ў выглядзе просьбы і адначасова жорсткага патрабавання. Не мужыкі!

Што ўжо тут казаць пра «бабаў», чые канстытуцыйныя паўнамоцтвы не ідуць далей за магчымасць прыйсці, паўсміхацца і пасядзець. І, тым не менш, у 2018 годзе Літва па ВУП на душу насельніцтва па парытэце пакупніцкай здольнасці аказалася на 38-м месцы ($34 597), а Беларусь — на 65-м ($ 19 941). Ці ёсць сэнс за такое істотнае адставанне спытаць з нашага «мужыка»? Я лічу, што ёсць.

### Колькі не кажы «халва»…

«Адзінства народа, мабілізацыя ўсіх яго сілаў — вось што трэба не толькі для таго, каб выстаяць у ліхую гадзіну, але і для таго, каб прадухіліць яе надыход». Залатыя словы, і сказаныя яны былі ў чэрвені 2016 года на Пятым Усебеларускім народным сходзе.

Ліхая гадзіна надышла. А як у нас справы з адзінствам? Мяркуючы па фармальных прыкметах, яе прыход не заспеў беларусаў знянацку. Калі за ўвесь 2001 год у газеце «СБ. Беларусь сегодня» было апублікавана 12 артыкулаў, якія ўтрымлівалі слова «адзінства», то толькі за травень бягучага года — 27!

Усялякае адзінства ў наш час адноснае. Нават у добрыя даіндустрыяльныя часы, калі звыш 90% насельніцтва амаль усё неабходнае для жыцця выраблялі ўнутры хатніх гаспадарак, ішоў працэс падзелу грамадства на саслоўі. Ён ішоў не дзеля карысці, а каб выжыць, бо нашым далёкім продкам даводзілася вырашаць адначасова дзве задачы — вырабляць матэрыяльныя даброты і абараняцца ад ворагаў. Рашэнне першай было ўскладзена на сялян, другой — на прафесійных вояроў. Сацыяльнае расслаенне і спарадзіла патрэбу ў дзяржаве, якая ўзяла б на сябе ролю пасярэдніка, медыятара (ад лацінскага mediāna — «сярэдняя»).

Па меры паглыблення падзелу працы, роля медыятара, натуральна, узрастала. І ў нашы дні здольнасць дзяржавы эфектыўна ўзгадняць інтарэсы розных сацыяльных групаў з'яўляецца абавязковай умовай эканамічнага развіцця.

Але гэтая гісторыя — не пра айчынны варыянт «дзяржавы для народа», што адкрыта дэманструе сваё нежаданне выконваць ролю медыятара. Гэта выяўляецца ўжо на ўзроўні мовы, бо мова, на якой прамаўляюць дзяржаўныя «мужыкі», не здольная адэкватна апісваць усю складанасць сучаснага свету. Выяўляць ворагаў — няма праблем, аддаваць загады — лёгка і проста, але каб займацца пошукам кампрамісаў...

Аднак калі ў нашай мове няма сродкаў для апісання навакольнага свету, то мы не можам нарошчваць свой вопыт і абменьвацца ім з іншымі людзьмі. «Мова і ёсць галоўная праблема, — тлумачыць эканаміст Віталь Найшуль, — усе астатнія праблемы ў параўнанні з гэтай — нязначныя. Гэта ёсць самы магутны сродак. Чаму? Таму што мова, як мы ведаем, нясе камунікатыўную функцыю. І калі ў вас ёсць мова, — значыць, у вас ёсць садружнасць людзей».

Колькі не кажы «халва», у роце саладзей не стане. Са словам «адзінства» — аналагічная гісторыя. Журналістаў дзяржаўных СМІ можна абавязаць уключаць яго ў кожны артыкул, але прорва паміж маладымі, адукаванымі жыхарамі вялікіх гарадоў і «мужыком», які сімвалізуе «дзяржаву для народа», ад гэтага не зменшыцца.

« Працяг. Пачатак на на стар. 1

# Запыт на перамены

Лукашэнка неаднаразова расказваў байку пра тое, што за яго ў 1994-м галасавалі людзі, якія раней былі прыкутыя да бальнічных ложкаў, — маўляў, ледзь не з труны ўставалі і ішлі галасаваць за «маладога прэзідэнта». Цяпер гісторыя паўтараецца, але з адваротным знакам: tut.by у Брэсце паразмаўляў з нейкай Марыяй, якая з сям'ёй праехала з Бярозаўскага раёна каля 100 кіламетраў, — каб падпісацца ў Брэсце за ўсіх «кандыдатаў у кандыдаты», акрамя аднаго. «Нават тыя, хто ляжаў на канапах, цяпер устаюць. Людзі гатовыя і за 100, і за 200 кіламетраў ехаць, каб падтрымаць Ціханоўскую», — сказала тая жанчына.

Запыт на перамены вельмі вялікі. Днямі ў Міністэрства інфармацыі выклікалі кіраўнікоў недзяржаўных СМІ, якіх настойліва папрасілі ўстрымацца ад арганізацыі апытанняў, тэма якіх гучыць блізкай да пытання: «За каго б вы прагаласавалі?». Маўляў, для правядзення падобных апытанняў на сайтах патрэбна ліцэнзія. Насамрэч, ліцэнзіі не трэба, бо гэта не рэпрэзентатыўнае сацапытанне. Улады проста спалохаліся вынікаў падобных апытанняў ад tut.by і onliner.by — яны паказалі, што Лукашэнка набірае ўсяго 2–6% галасоў.



Фота Радыё Свабода


Фота Радыё Свабода

### Без «плану Б»

Ва ўлады, якая разлічвала на чарговыя «ціхія» выбары, не аказалася «плану Б». Відавочна, што масавае падпісванне за альтэрнатыўных прэтэндэнтаў на прэзідэнта збянтэжыла нашых кіраўнікоў і ўвяло іх у стан шоку і ступару. Супрацьпаставіць гэтаму «народнаму волевыяўленню» няма чаго, а таму ў справу пайшлі звыклыя інструменты — запалохванне, рэпрэсіі і «чорны піяр».

Кіраўнік краіны, напрыклад, завёў звыклую шарманку пра тое, што ведае «мэты, якія пераследуюць тут асобныя ветрадуі», і гэтыя мэты — «зладзіць нам майданчык напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў ці ў дзень прэзідэнцкіх выбараў». «Майданаў у Беларусі не будзе», — заявіў Лукашэнка на сустрэчы з кіраўніком КДБ Валерыем Вакульчыкам.

«Майданам» можна было б палохаць, калі б у выбарах удзельнічала «тытульная апазіцыя». Але яна «злілася» яшчэ ў працэсе «праймерыз». Меркаваць, што банкір Бабарыка альбо «айцішнік» Цапкала, альбо экс-дэпутатка Канапацкая хочуць зрабіць Майдан, — смеху варта. На ролю «майданутага», можа быць, пасаваў бы Ціханоўскі, але тут улада сама сабе падклала свінню, выбіўшы яго з прэзідэнцкай гонкі. «Майдан» задумвае яго жонка, Святлана Ціханоўская? Ха-ха, тры разы.

Раней Лукашэнка рабіў выгляд, што іншыя кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду яго проста не цікавяць — маўляў, ён не бачыць сярод іх вартых супернікаў. Цяпер жа ён вымушаны зважаць на сваіх апанентаў. Гэта і неаднаразовыя словы пра «грошы, якія будуць раскідваць з верталётаў» (хаця верталёт ёсць толькі ў аднаго з прэтэндэнтаў на кіраванне краінай) — яўны закід наконт Бабарыкі з Цапкалам. Потым ён праехаўся па Святлане Ціханоўскай і Ганне Канапацкай, заявіўшы: «У нас Канстытуцыя не пад жанчыну. І ў нас грамадства не саспела для таго, каб галасаваць за жанчыну».

Зразумела, кажучы так, кіраўнік краіны разлічваў на кансерватызм беларусаў. Але грамадства вельмі змянілася — магчыма, у тым ліку дзякуючы спробе Тацціяны Караткевіч стаць кіраўніком краіны ў 2015-м (паводле незалежных сацапытанняў, яна набрала 22–24% галасоў). І словы Лукашэнкі пра тое, што «грамадства не гатовае», выклікалі не ўхваленне, а абурэнне. Уладальніца мінскага бару «Сіняя каза» і двух манікюрных салонаў Ксенія Фёдарава звярнулася ў ЦВК са скаргай на Лукашэнку за яго сексізм.

Добра, што яшчэ ніхто не згадаў, як была прынятая тая Канстытуцыя, якая «не пад жанчыну».

### Рэпрэсіі як фактар кансалідацыі

Рэпрэсіўная машына пачала дзейнічаць адразу — на вельмі раннім этапе. Звыкла выправілі «на суткі» Мікалая Статкевіча — за ўдзел у пікеце па зборы подпісаў 24 траўня ля Камароўскага рынку ў Мінску. Беларускае тэлебачанне пачало называць цалкам дазволеныя Выбарчым кодэксам мерапрыемствы «несанкцыянаванымі мітынгамі», і пратаколы ўдзельнікам пікетаў выпісваюць, адпаведна, менавіта за несанкцыянаванае мерапрыемства. Агульнавядомая праваакцыя ў дачыненні да Сяргея Ціханоўскага, якога абвінавацілі ў нападзе на міліцыянта. Ціханоўскі не адказаў жанчыне, якая запытвалася пра яго праграму (хаця якая праграма ў Ціханоўскага, калі ён нават не прэтэндэнт у прэзідэнты?), тая паскардзілася міліцыянту, што ёй не адказваюць (цікавая скарга, так?), а той пайшоў «разбірацца». І, нібыта, быў пабіты.

Многія лічаць гэта правакацыяй не таму, што так ужо ўпэўненыя ў намеры ўладаў «прыбраць» актыўнага апанента. А таму, што ўсе ведаюць, як працуе міліцыя. Ніхто не верыць, што міліцыянт «проста так» пойдзе разбірацца, чаму адзін грамадзянін не адказвае на пытанне другога грамадзяніна.

Але рэпрэсіі цяпер выклікалі адваротную рэакцыю. На наступны дзень, на знак салідарнасці з «калегам па барацьбе», Валерый Цапкала паставіў подпіс у падтрымку Святланы Ціханоўскай. Ганна Канапацкая паведаміла, што «нематываваная жорсткія дзеянні сілавых структур у дачыненні да сябраў ініцыятыўных груп ускалыхнулі электаральныя масы ў рэгіёнах і ў Мінску. Кратна ўзрасла актыўнасць патэнцыйных выбаршчыкаў».

Мінчук Яўген Гормаш крычаў «Ганьба!» даішнікам, якія штрафавалі кіроўцаў, што сігналілі ў падтрымку Святланы Ціханоўскай, і быў аштрафаваны. Грошы на штраф (немалы — 1350 рублёў) сабралі за 10 хвілін!

То-бок, грамадства не толькі актывізуецца — яно кансалідуецца. Людзі пачынаюць падтрымліваць адзін аднаго — нават зусім незнаёмыя. Канешне, пакуль у гэтым можна пабачыць «сяброўства супраць Лукашэнкі», але менавіта для таго, каб такога сяброўства не ўзнікала, 26 гадоў улады атамізавалі краіну, дзелячы яе на «сваіх» і «чужых», «чэсных» і «нячэсных», «патрыётаў» і «адмарозкаў». А пераадоленне атамізацыі, кансалідацыя грамадства — гэта ці не самы страшны сон цяперашніх беларускіх уладаў.

Тое, як людзі адбівалі ў міліцыі Ціханоўскага, паказвае — знікае і страх перад рэпрэсіямі. Пакрысе, але знікае.

### Ці будзе «Плошча»?

У такой сітуацыі вынікі гэтай выбарчай кампаніі (у шырокім сэнсе слова «вынікі») прадказаць вельмі цяжка. У тым ліку — і па пытанні, ці можа адбыцца масавы пратэст супраць фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Хутчэй за ўсё — так, можа. Але гэта будзе зусім не тая «Плошча», да якой мы прызвычаіліся.

Раней «Плошчы» неяк рыхтаваліся і анансаваліся. Цяпер яна можа здарыцца сама па сабе: проста таму, што людзі, якія цяпер масава падпісваюцца ў падтрымку альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты, адчуюць сябе падманутымі і выйдуць на вуліцы. Прыкладна так, як яны выйшлі ў 2017-м пратэставаць супраць «дармаедскага дэкрэту».

Тады ўлада кінула на вуліцы сталіцы незлічоную колькасць вайскоўцаў, каб разагнаць мітынг, які так і не пачаўся. Мінакі глядзелі на шэрагі салдатаў, на бронемашыны, адмыслова прызначаныя для разгону мітынгаў... І тады нехта побач са мною казаў: «Сёння мы выйшлі мірна. Калі мы выйдзем не мірна, гэтыя машынкі іх не ўратуюць».

Стыхійны пратэст — гэта не апазіцыйныя «пагулянкі» пад бел-чырвона-белымі сцягамі і пераходам вуліцы выключна на зялёнае святло. Гэта можа быць «бунт, бессэнсоўны і бязлітасны». Ад яго можна чакаць усяго, што заўгодна, і пры гэтым ніякі ўяўны «лідар» не здолее стрымаць натоўп.

Гледзячы на тое, як народ ужо цяпер рэагуе на рэпрэсіі кансалідацыяй і актывізацыяй, можна нават перасцерагчы ўлады ад гвалтоўных дзеянняў. Бо рэакцыя на гвалт можа быць цалкам непрадказальнай. Калі не на «Плошчы», дык пасля яе. Сцэнар усеагульнага страйку, які пакуль мроіцца былым удзельнікам «праймерыз», асабліва ўлічваючы, што ўвосень нас чакае значнае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, — зусім не выключаны.

### Час пакажа

Галоўнае, як будуць развівацца падзеі далей: у прыватнасці, каго зарэгіструе Цэнтрвыбаркам у якасці кандыдатаў у прэзідэнты. Пакуль ва ўлады ёсць поле для манеўру — гледзячы, хто і колькі подпісаў у сваю падтрымку збярэ. Улада можа абраць «больш зручнага» для сябе кандыдата, не зарэгістраваўшы Бабарыку, а зарэгістраваўшы, напрыклад, Цапкалу з Канапацкай. Ці, як у 2010-м, зарэгіструе ўсіх, каб распілаваць пратэстны электарат.

І тут мы ўжо пабачым дамовалздольнасць патэнцыйных прэтэндэнтаў на прэзідэнта. Першы крок, дарэчы, ужо зроблены — гэта «дэкларацыя Бабарыкі» аб сумленных выбарах, да якой могуць далучыцца астатнія. Падтрымка гэтай дэкларацыі (нават без афіцыйнага падпісання) прэтэндэнтамі можа стаць адпраўной кропкай для яднання.

Адзінае, што персанальна мяне вельмі непакоіць у сённяшняй сітуацыі — гэта адсутнасць (спадзяюся, пакуль) праграмаў дзеянняў прэтэндэнтаў на прэзідэнта. Пратэстнае галасаванне — рэч вельмі небяспечная. Мы ўжо аднойчы апякліся на гэтым, калі галасавалі па прынцыпе «хто заўгодна, абы не Кебіч». Цяпер сітуацыя паўтараецца.

І механізмаў перасцярогі ад гэтай праблемы, нават калі яны існуюць, — не бачна.

# Генетычная боязь байкоту

## Чаму ідэя байкоту альбо няўдзелу ў выбарах не спрацуе?

Таццяна ПРОЦЬКА

**Калі гаворка заходзіць пра выбары, найбольшая ўвага грамадства надаецца тым, хто будзе балатавацца на выбарныя пасады. Аналізуюцца шанцы кандыдатаў, іх палітычныя (і не толькі) погляды, матэрыяльнае становішча. Аднак па-за межамі грамадскай увагі часта застаюцца самі выбаршчыкі. Таму мне падалося карысным нагадаць, як фарміраваліся адносіны да выбараў у БССР-СССР, які гістарычны здабытак нясуць на сабе і маюць нават сёння беларускія выбаршчыкі.**




**Як толькі чалавек трапляў у спіс «лішэнцаў», яго звальнялі з працы, маглі выселіць яго сям'ю, пазбаўлялі прадуктовых картак, выключалі дзяцей з прэстыжных школ і ВНУ. Чалавек у такіх умовах не толькі адмаўляўся ад сваёй сям'і, свайго мінулага, больш за тое, ён усяляк імкнуўся забыць яго**

Я хачу засяродзіцца на так званых «лішэнцах» (ад рускага слова «лишить») — людзях, якіх пазбаўлялі спачатку выбарчага права, а потым дадавалі да гэтага пазбаўлення і шэраг сацыяльных і палітычных абмежаванняў. «Лішэнства» мела наступствы, якія і да сёння ўскосна ўплываюць на выбарчы працэс.

### Не толькі права голасу

Ідэя «лішэнства» ўзнікла ў асяроддзі савецкага кіраўніцтва неўзабаве пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года, а ў ліпені 1918 года пазбаўленне права голасу за прыналежнасць да варожага класа або да варожай сацыяльнай групы было замацаванае ў асобным артыкуле першай Канстытуцыі РСФСР, якая дзейнічала і ў БССР.

Пазбаўленне права ўдзелу ў выбарах аўтаматычна цягнула за сабой шэраг іншых абмежаванняў у сацыяльным і грамадскім становішчы чалавека. Сістэма гэтых абмежаванняў развівалася на працягу доўгага перыяду часу і канчаткова аформілася да пачатку 1930-х гадоў. Людзі, пазбаўленыя выбарчых правоў, ператвараліся ў ізгояў, у грамадзян «другога гатунку». Нярэдка пазбаўленне выбарчых правоў было падставай для далейшых рэпрэсіўных дзеянняў супраць чалавека.

Грамадзяне, пазбаўленыя права голасу, не толькі гублялі магчымасць удзелу ў грамадска-палітычным жыцці. Страта выбарчых правоў азначала шэраг сур'ёзных абмежаванняў у сацыяльнай, эканамічнай, побытавай сферы. Канчатковага свайго развіцця сістэма абмежаванняў дасягнула падчас «вялікага перелому», у пачатку 1930-х гадоў. У гэты час многія «лішэнцы» фактычна аказаліся на мяжы выжывання. Яны не мелі магчымасці «займаць адказныя пасады, а роўна быць засядацелямі ў народным судзе, абаронцамі на судзе, паручыцелямі, апекунамі». Не мелі права атрымліваць пенсію і дапамогу па беспрацоўі. Ім не дазвалялася ўступаць у прафсаюзы, у той жа час не чальцы прафсаюза не дапускаліся ў кіраўніцтва прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый. «Лішэнцам» не выдаваліся прадуктовыя карткі, альбо выдаваліся па самай нізкай катэгорыі. Наадварот, падаткі і іншыя плацяжы для «лішэнцаў» былі істотна вышэйшыя, чым для астатніх грамадзян.

У 1920-я гады пачалася кампанія па высяленні «лішэнцаў» з камунальных кватэр, а таксама па выключэнні іх дзяцей са школ. Дзецям «лішэнцаў» было вельмі цяжка атрымаць адукацыю, вышэйшую за пачатковую. Фармальна не забаранялася вучыцца ў школах і нават у ВНУ, але пры гэтым заяўлялася, што на ўсіх месцаў не хапае, і таму савецкая ўлада ў першую чаргу будзе забяспечваць магчымасць адукацыі для дзяцей працоўных, а для дзяцей эксплуататараў — у апошнюю чаргу. У сацыяльных адносінах асобы, якія пазбаўляліся выбарчых правоў, ператвараліся ў ізгояў, людзей «другога гатунку». Не ўдзельнічаць у выбарах свядома — гэта азначала быць у адным шэрагу з «лішэнцамі», быць калі не прамым, то ўскосным ворагам дзеючай улады.

Шэраг адносна нядалых выбарчых кампаній (колькасць камуністаў у мясцовых саветах была невялікай) прымусіў ЦК у 1925 годзе звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на праблему, якая лічылася падчас Грамадзянскай вайны і ў першыя пасляваенныя гады далёка не першаснай. Змяніць увесь нізавы савецкі апарат на прыхільнікаў камуністаў не ўяўлялася магчымым нават пасля абвяшчэння каранізацыі. Паколькі мясцовыя саветы ў асноўным падрыхтоўвалі спісы «лішэнцаў», не атрымлівалася хутка выправіць і дапоўніць гэтыя спісы. Прымяненне разнастайных спосабаў маніпуляцыі бюлетэнямі для таемнага галасавання таксама адпадала, бо з-за масавай непісьменнасці галасавалі толькі адкрыта. Вырашылі пашырыць яўку на выбары.

Каб змяніць баланс сіл на сваю карысць з дапамогай нарошчвання яўкі выбаршчыкаў да выбарчай кампаніі 1926 года губернскім, гарадскім, павятовым, валасным і раённым камітэтам партыі даручылі пранікаць самы актыўны ўдзел у працэсе выбараў, падключыць да яго прафсаюзы і зрабіць так, каб на выбары пайшлі ўсе блізкія савецкай уладзе людзі і былі абраныя неабходныя кандыдаты. Але ідэалагічная актыўнасць не дала неабходнага выніку. Пра гэта паведамлялася ў адпаведных зводках АДПУ: «Частковыя матэрыялы пра склад новых сельсаветаў, — гаварылася ў агглядзе ад 24 сакавіка 1926 года, — паказваюць на значнае паляпшэнне па большасці раёнаў асабістага складу сельсаветаў. У цэнтральных губернях склад новых сельсаветаў, за вельмі рэдкімі выключэннямі (у Тамбоўскай губерні), бядняцка-серадняцкі, а ў асобных выпадках і бядняцка-батрацкі (...) Аднак "засмечанасць" мясцовых саветаў антысавецкімі элементамі нікуды не знікла».

З шараговымі выбарцамі пачалі працаваць не толькі з дапамогай агітацыі. Быў абраны і іншы спосаб — зрабіць удзел у выбарах пачэснай з'явай, няўдзел — агідным і небяспечным.

Некаторыя кіраўнікі мясцовых саветаў пры падтрымцы партыйных і камсамольскіх актывістаў арганізоўвалі сапраўдныя ганенні на асобаў, якія страцілі права голасу. Выяўлялася гэта не толькі ў неабгрунтаваным звальненні з працы, гвалтоўным адабранні жытла і маёмасці, недапушчэнні дзяцей «лішэнцаў» у школу. Маральныя страты былі найбольш балючымі. Нашчадак «лішэнца» Ігар Уладзіміраў апісвае выпадак, які адбыўся з яго бацькам і дзядзькам: «У школу, дзе яны з маім бацькам вучыліся, прывезлі амерыканскую какаву. Адразу з'явілася чарга з вучняў да раздатачнага стала. Зразумелая справа, малалетнія браты Уладзіміравы таксама стаяць у чарзе. Як жа, амерыканская какава! Прыйшоў дырэктар школы і перад усёй школай вывеў іх з чаргі — вам не належыць!»

Асабліва шмат падобных інцыдэнтаў адбывалася ў канцы 1929-га — напачатку 1930-х гадоў. Эксплуататарам наёмнай рабочай сілы маглі прызнаць шматдзетнага гараджаніна, у якога ў доме пару месяцаў жыла памочніца-нянька, а гандляром (варожым класам) — селяніна, які некалькі разоў прадаў вырашчаную ім гароднiну-садавіну.

У ходзе фармальнай барацьбы з «перагібамі», дапушчанымі пры правядзенні калектывізацыі, шэраг выпадкаў дыскрымінацыі «лішэнцаў» быў асуджаны з боку абласных уладаў, некаторыя вінаватыя былі прыцягнутыя да партыйнай адказнасці. Але падобныя асобныя акцыі ў большасці насілі дэманстратыўна-публічны характар і сур'ёзных наступстваў для «лішэнцаў» не мелі. Становішча большасці з іх працягвала заставацца цяжкім.

Як толькі чалавек трапляў у спіс «лішэнцаў», яго звальнялі з працы, маглі выселіць яго сям'ю, пазбаўлялі прадуктовых картак, выключалі дзяцей з прэстыжных школ і ВНУ. Чалавек у такіх умовах не толькі адмаўляўся ад сваёй сям'і, свайго мінулага, больш за тое, ён усяляк імкнуўся забыць яго. Такога роду «чалавечы матэрыял», абцяжараны комплексам віны, быў неабходны камуністычнай партыі для будаўніцтва таталітарнай дзяржавы.

Думаю, не адно пакаленне беларусаў уяўляла сябе на месцы сваіх продкаў, якія, стаўшы «лішэнцамі», па-сутнасці аказаліся на вуліцы, без даху над галавой, без крыніцы даходу і без надзеі на дапамогу — гэта значыць, у жахлівым становішчы. Пры гэтым кожны мог упікнуць іх як ворагаў.

У той час у народзе нават паўстаў сумны анекдот. Тоне ў рацэ мужчына, боўтаецца, выбіваецца з сіл, але на дапамогу не кліча. Мінак, які заўважыў яго, кідаецца ў ваду і ратуе тапельца. У яго пытаюць: «Чаму не крычаў, не клікаў на дапамогу?». — «А я голасу пазбаўлены!» — адказвае тапелец.

### Аднавіцца праз пакуты

Многія «лішэнцы» падавалі хадайніцтвы і заявы пра аднаўленне ў праве голасу. Па гэтых заявах заводзіліся справы, якія захаваліся ў архівах. Агульным матывам усіх гэтых скаргаў ужо тады стала жаданне даказаць сваю лаяльнасць да існуючага палітычнага рэжыму. Вельмі часта «лішэнцы» ў скаргах апісвалі сваё жаданне актыўна ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці краіны і будаўніцтве сацыялізму. Часта дзеля аднаўлення ў выбарчых правах людзі гатовыя былі пайсці на ўсё. Нярэдка маладыя «лішэнцы», дамагаючыся вяртання права галасу, публічна — на сходзе ці нават у газеце — адракаліся ад сваіх бацькоў і сем'яў.


Порываю родственную связь с родителями Болдыревыми Н. И. и Е. Д. Болдырева О. Н. 871-к ◆ Родственную связь с родителями Бурак Михаил и Евдокия — Халецкий В. М. 883-к ◆ Родственную связь с мужем Хромых М. С. — Гальцова Ф. К. 884-к ◆ Родственную связь с мужем Ивановым И. И. — Третьякова В. М. 903-к

Чалавек у такіх умовах адмаўляўся ад сваёй сям'і і свайго мінулага

Асаблівая ўвага пры вяртанні правоў надавалася самастойным дзецям «лішэнцаў». Даючы выбарчыя правы тым сынам і дочкам кулакоў, святароў, прыватных гандляроў, прадпрымальнікаў, якія парвалі адносіны з бацькамі і займаліся «грамадска-карыснай працай», улада амаль заўсёды голасна заяўляла пра гэта. Пры гэтым пераследавалася цалкам ясная мэта — знішчэнне патрыярхальных сямейных асноў у імя выхавання новага чалавека, грамадзяніна камуністычнага грамадства.

Моладзь была вымушаная не толькі адмаўляцца ад бацькоў, але часцей — з'язджаць з вёскі ці горада на камсамольскія і іншыя будоўлі, змяняць прозвішча. Захоўвалася памяць нават пра тое, як маглі пазбавіць правоў. Унучка аднаго магчымага «лішэнца» пісала ў наш час: «З аповеду маёй бабулі: "Гэта быў жудасны час. Мы, дзеці, не разумелі, што адбываецца. Мама чамусьці хавала свае ўпрыгожванні, каштоўнасці, у доме прыбралі нават люстэрка. Бацькі часта пра нешта ўстрывожана гутарылі, абмяркоўвалі. Як потым я даведалася, усё гэта адбывалася, таму што ў любы час у дом магла наляцець праверка і адабраць усе прадметы раскошы, аж да некаторай хатняй маёмасці, і прылічыць нашу сям'ю да "эксплуататарскіх класаў". Неўзабаве прыехалі служачыя міліцыі і забралі дзядзьку. Як ён распавядаў, яго пасадзілі ў турму і прымушалі "добраахвотна" аддаць каштоўныя рэчы. Такія дзеянні служачыя органаў здзяйснялі неаднаразова. Дзядзька быў даволі кемлівы і хаваўся ад міліцыі. Але яны, не спыняючыся толькі на ім, падверглі праверкам яго жонку. Іх метады нічым не адрозніваліся ад тых, якія яны ўжывалі да членаў сям'і ворагаў народа. Прабабуля, вядома ж, не вытрымала такіх адносінаў і літаральна пры іх зняла ўсе свае ўпрыгожванні: пярсцёнкі, завушніцы — і больш ніколі іх (упрыгожванні) не насіла. Спробы міліцыі аднесці майго бацьку да "лішэнцаў" не здзейсніліся. Я да гэтага часу не разумею, чаму так склалася... У той час было страшна ўсім. Я нават не ўяўляю, што магло б стацца з намі, дзецьмі. У сям'і нас было трое. Я ведала тых, хто з-за наступстваў лішэнства змяняў свой радавод, пры мне дзяцей лішэнцаў не прымалі ў ВНУ"».

## «Воўчыя білеты» для безгалоснікаў

Пры прызыве ў войска на кожнага прызыўніка райваенкаматам абавязкова рабіўся запыт пра яго сацыяльнае паходжанне. Сын «лішэнца», дасягнуўшы паўналецця, таксама аўтаматычна станавіўся «лішэнцам» і заносіўся ў адпаведныя спісы. Калі ён дасягаў прызыўнага ўзросту, яго прызывалі, але не ў войска, а ў тылавое апалчэнне, дзе ён выконваў гаспадарчыя задачы. Зброю ў рукі «лішэнцам» не давалі, што было спецыяльна адлюстравана ў пасведчанні так званага «тылаапалчэнца». Пасведчанне тылаапалчэнца было белага колеру, адкуль і нарадзілася паняцце «белабілетнік», якое існуе і да нашых дзён, але набыло зусім іншы сэнс. Гэтак жа, як і само тылаапалчэнне, якое ў 1937 годзе было пераўтворанае ў будаўнічыя часткі РККА, інакш кажучы — у «страйбат».

Некалькі гадоў тылаапалчэнцаў наогул не прызывалі ў войска, а толькі абкладалі дадатковым падаткам. З канца 1931 года іх сталі не толькі прызываць, але і выкарыстоўваць «па поўнай праграме» на працах абаронна-стратэгічнага прызначэння. «Абаронна-стратэгічны» — тэрмін падступны, ён уключаў у сябе як будаўніцтва дарог, так і працу ў шахце. Тылаапалчэнцы жылі ў спехам пабудаваных бараках, іх харчаванне было нашмат горшым, чым у вольнанаёмных. Па сутнасці, гэта быў лагер.


18
Форма № 10.
Лишен права защиты СССР с оружием в руках.
СВИДЕТЕЛЬСТВО
обязанного службой в тыловом ополчении.
Выдано настоящее свидетельство Красноярским
Окружным Военным Комиссариатом
(кем выдано)
Кому Михалеву Константину Александр.
(фамилия, имя, отчество)
Уроженец
(губернии, уезда, волости, города, села, деревни)
Национальность Русский
Время рождения 31 Мая 1898 г.
(год, месяц, число)
Местожительство
(подробный адрес)

«Белы білет» часоў СССР

## Атмасфера нянавісці і адчужэння

Адносіны «лішэнцаў» і астатняга грамадства былі складанымі і неадназначнымі. Да сярэдзіны 1920-х гадоў «лішэнцы» заставаліся арганічнай часткай соцыуму. Многія з іх не ўспрымалі страту выбарчых правоў як падзею, якая змяняе іх жыццё ў горшы бок. Звычайнай з'явай у гэты перыяд былі калектыўныя звароты працоўных калектываў і сельскіх сходаў у органы ўлады і выбарчыя камісіі з нагоды аднаўлення ў правах таго ці іншага грамадзяніна. Але з заканчэннем беларусізацыі і каранізацыі сітуацыя значна пагоршылася.

Людзі, якім было адмоўлена ў праве ўдзельнічаць у выбарах, цяпер адчувалі на сабе не толькі матэрыяльны прыгнёт, але і істотны маральны. Такі духоўны стан адлюстраваны, напрыклад, у наступнай заяве чалавека на ўзнаўленне выбарчага права: «Усведамляць сябе грамадска чужым элементам і шкодным для службы перад тварам дзяцей вельмі цяжка. Дачку пасля беспамылковай 15-гадовай службы знялі з працы і выключылі з прафсаюза за тое, што я жыў у ягоны, іншых дзяцей чакае тая ж доля з-за сацыяльнага паходжання (...) Жыццё маё ўжо на сыходзе, але дзеці вартыя таго, каб быць агароджаныя ў сваёй рабоце ад непрыемнасцяў і складанасцяў, якія могуць узнікнуць пры абследаванні іх сацыяльнага паходжання».

Часам улады не спыняліся і перад разбурэннем сем'яў. Паказальнымі ў сувязі з гэтым з'яўляюцца развагі жонкі святара, якой было адмоўлена ў аднаўленні выбарчых правоў па прычыне таго, што яна знаходзіцца на ўтрыманні ў служкі рэлігійнага культу. У сваёй заяве жанчына піша: «Чаму камісія патрабуе разводу з мужам? Няўжо яна баіцца шкоднага ўплыву на мяне ў сэнсе ідэйнасці? Але ў мае 57 гадоў не можа быць і гаворкі пра гэта. Старасць шукае спакою. Інтарэсы не пасіўныя. Але і разыходзіцца з мужам позна».

Паступова вакол «лішэнцаў» фарміравалася атмасфера нянавісці і адчужэння. Улада актыўна займалася адпрацоўкай на «лішэнцах» стаўлення да «ворагаў», «класава чужых». Пасля гэтыя стэрэатыпы, укаранёныя ў масавую свядомасць, выкарыстоўваліся для апраўдання масавых палітычных рэпрэсій.

Сітуацыя пагоршылася са з'яўленнем у СССР-БССР унутраных пашпартоў, якія былі ўведзеныя пастановай ЦВК і СНК СССР «Аб усталяванні адзінай пашпартнай сістэмы па Саюзе ССР і абавязковай прапіскі пашпартоў», прынятай 27 снежня 1932 года. Парадак выдачы (і нявыдачы) пашпартоў быў удакладнены пастановамі Саўнаркама СССР ад 14 студзеня і 28 красавіка 1933 года. Пашпарты выдаваліся «ўсім грамадзянам Саюза ССР ва ўзросце ад 16 гадоў, якія стала пражываюць у гарадах, рабочых пасёлках, працуюць на транспарце, у саўгасах і навабудоўлях». Буйныя гарады (уключна з Мінскам) былі аднесеныя да рэжымных. Выдача пашпартоў у рэжымных мясцовасцях праводзілася выбарачна: пашпарты не выдавалі ў тым ліку і «лішэнцам».

Да рэжымных былі аднесеныя і населеныя пункты ў 100-кіламетровай паласе ўздоўж заходняй мяжы СССР (мяжа тады была пад Заслаўем). Першапачаткова выняткі дапускаліся ў дачыненні да пазбаўленых выбарчых правоў асоб, якія былі ўраджэнцамі рэжымных мясцовасцяў і пастаянна там жылі. Але вельмі хутка гэта часовая «саступка» была адмененая.

## «Свята савецкай дэмакратыі»

У 1922 годзе «лішэнцы» ў СССР у сельскай мясцовасці складалі 1,4%, у 1923-м — 1,3% ад колькасці выбаршчыкаў, каля 7% у гарадах. У ходзе кампаніі 1925 года «лішэнцаў» у СССР налічвалася ўжо 1 мільён 40 тысяч (1,63% ад колькасці выбаршчыкаў). У выбарчую кампанію 1926/1927 гадоў агульная колькасць «лішэнцаў» у СССР дасягнула 3 мільёнаў, у 1928-м — 3 мільёнаў 716 тысяч. Да 1934 года доля «лішэнцаў» у СССР у горадзе складала 2,1%, у сельскай мясцовасці — 2,6%. Разам з чальцамі сем'яў «лішэнцаў» каля 7 мільёнаў жыхароў СССР былі абвешчаныя па-за законам — іх пазбаўлялі не толькі выбарчага права, але і, фактычна, права на жыллё, медыцынскае абслугоўванне, на атрыманне вышэйшай адукацыі і на прадуктовыя карткі. Людская памяць захавала гэтыя пакуты і звязала іх з выбарамі.







Колькасць «лішэнцаў» працягвала няўхільна расці да тых часоў, пакуль іх не пачалі масава пераводзіць у іншыя катэгорыі — высланых, арыштаваных, расстраляных. Да 1936 года «чыстых» «лішэнцаў», якія б наўпрост падпадалі пад канстытуцыйныя нормы, амаль не засталося. Магчыма таму ў новую сталінскую Канстытуцыю палажэнне аб пазбаўленні выбарчых правоў не ўключылі.

Фармальна, катэгорыя «лішэнцаў» у СССР існавала да прыняцця Канстытуцыі 1936 года, якая прадаставіла выбарчыя правы ўсім грамадзянам, у тым ліку і «лішэнцам». Нягледзячы на гэта, фактычна «лішэнства» засталося. Дзецям па-ранейшаму складана было паступіць у ВНУ, бацькам — займаць якія-небудзь пасады. Больш за тое, яшчэ трыццаць гадоў у анкетах захоўвалася пытанне: «Ці пазбаўляліся вы права голасу, калі і за што?». Да 1 студзеня 1961 года дзейнічаў пункт «д» артыкула 20 КК РСФСР 1926 года і аналагічных артыкулаў КК саюзных рэспублік, якім усталёўвалася, што паражэнне ў палітычных і асобных грамадзянскіх правах можа прымяняцца судамі як мера сацыяльнай абароны ў адносінах да злачынцаў.

Пазбаўленне правоў праіснавала 18 гадоў. Яно стала дзейсным сродкам змены сацыяльнай структуры грамадства і дзяржавы. Выбары сталі называць «святам савецкай дэмакратыі». З увядзеннем таемнага галасавання людзі ўпэўніліся сябе ў тым, што сапраўды вызначаюць лёс улады.

## Таму — без байкоту

Якія высновы можна зрабіць з гэтай гісторыі, цікавыя для нашага часу? Мне падаецца, перш за ўсё, ідэя масавага байкоту выбараў не спрацуе ў беларускім грамадстве. Мая вясковая суседка сталага ўзросту так сказала мне: «Я не "лішэнец", я пайду галасаваць. Але я прагаласую супраць усіх ці выкраслю ўсіх, калі не зарэгіструюць добрых прыстойных кандыдатаў». Мінулае ўсё яшчэ моцна трымае нас.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАНЗАНІЯ. Комік смяяўся з фотаздымку прэзідэнта

У Танзаніі пачаўся незвычайны працэс, фігурантам якога стаў вядомы афрыканскі комік Ідрыс Султан. Акцёра абвінавачваюць у абразе прэзідэнта і кіберзлачынствах.

Гэтыя злачынствы Ідрыс здзейсніў, калі смяяўся з фота мясцовага прэзідэнта Джона Магуфулі. Пасля ролік з гэтай сцэнай з'явіўся ў сецїве і стаў вірусным. У мінулую сераду па Ідрыса прыйшла паліцыя і павяла яго ў суд.

Працэс абурыў грамадства. Многія карыстальнікі сацыяльных сетак паўторна падзяліліся відэа з хэштэгам #FreeIdrisSultan і выкарысталі яго фатаграфію ў якасці аватаркі для выказвання салідарнасці. А лідар мясцовай апазіцыі нават прапанаваў арыштаваць і яго за смех з фотаздымка прэзідэнта.

У выніку суд вырашыў адпусціць акцёра пад заклад да пачатку слуханняў. Праўда, заклад вельмі істотны — 15 мільёнаў мясцовых шылінгаў (больш за 6000 долараў ЗША). Першыя слуханні па незвычайнай справе прызначаныя на 9 чэрвеня.

**Паводле танзанійскай прэсы**

### УКРАІНА. Цуды на ўдалёнцы

Літаральна за адзін тыдзень у суседніх краінах рашуча пашырылі магчымасці выкарыстання анлайн-трансляцый.

Пачнём з Украіны, дзе адзін з прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы Украіны (Канстанцінопальскі патрыярхат) вырашыў ва ўмовах самаізаляцыі і каранціну рабіць «літургію» і «прычашчаць» прыхаджан дыстанцыйна праз інтэрнэт. Для гэтага ён заклікаў падчас яго трансляцый ставіць перад экранамі кампутараў хлеб і віно, якія, паводле яго ж заявы, нібыта пасля чытання малітваў стануць «святымі дарамі».

Не адстаюць і ў суседняй Расіі. У Яраслаўлі дазволілі працаваць лазням, але… без наведвальнікаў. Многія расцанілі гэта як заклік парыцца дома ды размаўляць па Skype з лазеншчыкам, які віртуальна пляскае цябе венікам. У лазнях пастанову адміністрацыі каментаваць адмаўляюцца. У мэрыі таксама. Самае цікавае, што ў Яраслаўлі ўжо пачалося традыцыйнае адключэнне гарачай вады.

**Паводле ўкраінскай і расійскай прэсы**

### ШВЕЦЫЯ. Піпі Доўгаяпанчоха і каронавірус

Увесь свет кажа пра дзіўную рэакцыю шведскага ўраду на цяперашнюю эпідэмію. У той час, як іншыя, у тым ліку суседнія скандынаўскія дзяржавы, абвяшчалі каранцін, шведы рэагавалі на эпідэміялагічную пагрозу вельмі мякка. Усе ўстановы, у тым ліку рэстараны і бары, працягвалі працаваць. Хіба што дарослым людзям рэкамендавалі менш выходзіць з дому. На палітыку ўладаў не паўплывалі нават адносна высокая смяротнасць. І самае цікавае ў тым, што народ у большасці падтрымаў курс ураду.

Газета Dagens Nuhet прапанавала незвычайную версію гэтага феномену. На яе думку, усё тлумачыцца тым, што ў Швецыі існуе культ Піпі Доўгаяпанчохі — вядомага персанажу твораў Астрыд Ліндгрэн. Адпаведна, шведы намагаюцца паводзіць сябе як іх любімая літаратурная гераіня, якой, у сваю чаргу, характэрны анархісцкі лад жыцця. Як вынік, цяжка ўявіць, што Піпі засталася б дома ў выпадку абвяшчэння каранціну.

Падобным чынам, маўляў, паводзілі б сябе і шведы, калі б іх заклікалі да самаізаляцыі. Інтуітыўна ведаючы гэта, урад, маўляў, і вырашыў шукаць больш ліберальныя варыянты барацьбы з вірусам. Застаецца толькі радавацца, што шведы не абралі сабе ў куміры хулігана Карлсана.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Вайскоўцы замест дактароў

Бразільская газета Folha de São Paulo сцвярджае, што кіраўнік краіны Жаір Балсанару задумаў рэформу міністэрства аховы здароўя. Справа ў тым, што супрацоўнікі ведамства скептычна ставяцца да заяў гаранта пра тое, што каронавірус — гэта лухта.

Вырашыць праблему Балсанару з эпідэміяй збіраецца вельмі радыкальна — звольніць прыкладна 2500 дактароў і замяніць іх… жаўнерамі. Натуральна, узнікае пытанне: як мілітарызацыя ведамства можа дапамагчы ў барацьбе з эпідэміяй? Хіба вайскоўцы могуць аказваць медычную дапамогу або даваць прафесійныя кансультацыі?

Калі верыць Folha de São Paulo, кіраўніку краіны гэта і не трэба. На яго думку, галоўная функцыя медычнага ведамства ў цяперашні час — раздаваць народу антымалярыйныя сродкі. Тыя сродкі, як лічыць Балсанару, стопрацэнтна дапамогуць ад заразы. А з раздачай лекаў бразільцам могуць справіцца і простыя вайскоўцы. Выданне таксама канстатуе, што Балсанару немагчыма пераканаць у тым, што ён памыляецца. Такія паводзіны гаранта дазваляюць журналістам падазраваць, што ён хворы на вірус некампетэнтнасці.

**Паводле бразільскай прэсы**



Фота www.masterok.livejournal.com

# «За што сядзіць Тыбет?»

Алег НОВІКАЎ

**На палітычнай мапе свету чакаюцца змены. Рэспубліканец-дэпутат Скот Перы падаў у Кангрэс ЗША законапраект: «Даць права прэзідэнту ЗША прызнаць Тыбет, аўтаномны раён Кітайскай Народнай Рэспублікі, у якасці асобнай незалежнай дзяржавы».**

Адзін знаёмы айчынны палітык неяк распавёў кур'ёзны выпадак, што здарыўся на досвітку незалежнасці, пра візіт у Мінск высокапастаўленага чыноўніка з Пекіна. Яго прыезд натхніў беларускіх аматараў будызму выйсці да Дома ўраду з плакатамі «Свабоду Тыбету!». Афіцэр з аховы будынка, калі пабачыў пікет, дастаў рацыю і запатрабаваў прабіць па базе, хто такі вязень «Тыбет», у якой турме сядзіць, і за што адбывае тэрмін?

Часы палітычнай непісьменнасці прайшлі. Нават тыя, хто асабліва не цікавіцца міжнароднымі навінамі, нешта чуў пра намер часткі тыбетцаў аднавіць суверэнітэт радзімы, які яна страціла ў 1951 годзе пасля прыходу ў Гімалаі кітайскіх камуністаў. Агульнавядомай у свеце з'яўляецца асоба Далай Ламы, што кіруе незалежнікамі ў эміграцыі.

Вялікага ўплыву на сітуацыю ў Тыбеце дыяспара не мае, а яе дзейнасць сфакусаваная, хутчэй, на арганізацыі семінараў і канферэнцый. Актыў незалежніцкага руху складаюць людзі, якія даўно жывуць на Захадзе або ў Індыі, дзе, як правіла, і нарадзіліся. Відавочна, што ў Тыбеце існуе свая, інтэграваная ў агульнакітайскую, рэгіянальная эліта, якая вельмі баіцца абвастрэння тыбецкага пытання. У такім выпадку Пекін дакладна «закруціць гайкі» і абмяжуе паўнамоцтвы тубыльцаў на карысць цэнтру.

Увогуле, няма сумневаў, што тыбецкая ініцыятыва Скота Перы з'яўляецца фрагментам больш шырокай антыкітайскай стратэгіі Трампа, які помсціць Пекіну за эпідэмію. Адначасова з «тыбецкім законам» Кангрэс разглядзіць пакет пастаноў пра новыя санкцыі супраць кітайскіх чыноўнікаў, звязаных з «пераследам уйгураў» у Сіньцзяне. Раней Сенат ЗША ўхваліў законапраект, які можа перашкодзіць кітайскім фірмам трапляць на амерыканскія фондавыя біржы. Ходзяць плёткі і пра прызнанне незалежнасці Тайваня, які, як вядома, Пекін лічыць часткай Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Чаго можна чакаць, калі амерыканскія парламентарыі сапраўды прагаласуюць за «незалежнасць Тыбету»? Гаворка, нагадаем, пра Тыбецкі аўтаномны раён (Сіцзан), які займае плошчу 1 мільён 178 тысяч 441 квадратны кіламетр (3-е месца сярод адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак КНР) і знаходзіцца ў самым высакагорным рэгіёне нашай планеты. Насельніцтва краю складае каля трох мільёнаў чалавек, якія ў большасці (90 працэнтаў) — этнічныя тыбетцы.

Відавочна, што прызнанне «тыбецкай незалежнасці» ніяк не паўплывае на рэальную канфігурацыю ўлады ў Лхасе. У тым ліку таму, што Тыбет — стратэгічны рэгіён для кітайскіх генералаў, якія трымаюць тут вялікі вайсковы кантынгент. Дзякуючы Тыбету Пекін, сярод іншага, супрацьстаіць Індыі.

Таму, акрамя інфармацыйнага хайпу і ўзаемных дыпламатычных дэмаршаў, адзіным канкрэтным вынікам, падаецца, будзе стварэнне на грошы ЗША нейкага сімулякра ўрадавай адміністрацыі, якая паспрабуе віртуальна кіраваць рэгіёнам з-за мяжы. З улікам структуры цяперашняй ААН, дзе Пекін мае права вета, шанцы на дыпламатычнае прызнанне падобнага ўраду незалежнага Тыбету практычна нулявыя.

Акрамя таго, падтрымка незалежнасці Тыбету можа стварыць прэцэдэнт і запусціць дзіўны працэс «параду суверэнітэтаў». 30 траўня, яўна пад уплывам кроку Скота Перы, адзін з лідараў руху за незалежнасць пакістанскай правінцыі Белуджыстан звярнуўся да амерыканскіх кангрэсменаў з экстравагантным заклікам. Сэнс заклiку — не абмяжоўвацца Тыбетам, а прызнаць Белуджыстан, які пакутуе ад парушэння правоў чалавека, таксама незалежнай дзяржавай.

Няма сумневаў, што Пекін у адказ на незалежнасць Тыбету зробіць нейкія люстэркавыя крокі. Напрыклад, уздыме пытанне легітымнасці прыналежнасці да ЗША гавайскага архіпелагу. Гаваі (а дакладней, Гавайскае каралеўства) было фактычна анексаванае Злучанымі Штатамі пасля арганізаванага з іх дапамогай перавароту ў 1893 годзе. Расійскае прапуцінскае выданне «Взгляд» ідзе яшчэ далей, дапускаючы прызнанне Пекінам незалежнасці індзейскіх рэзервацый у Злучаных Штатах.

Таму большасць каментатараў усё ж асцярожна ставяцца да перспектываў скандальнага законапраекта. У гэтым асяроддзі дамінуе думка, што Тыбет спатрэбіўся Беламу дому для інфармацыйнай кампаніі. Прычым, аўдыторыяй гэтай кампаніі могуць быць не кітайцы, а амерыканскі палітыкум і электарат — у кантэксце цяперашняй прэзідэнцкай кампаніі.

Нават тыбецкая дыяспара, вітаючы заканадаўчую ініцыятыву Перы, пагаджаецца, што цяперашні праект прызнання незалежнага Тыбету — гэта, хутчэй, «чорная метка» на адрас Пекіну. «Вядома, ніхто не павінен думаць або гаварыць, што Кітай трэба дэстабілізаваць. Задача палягае ў тым, каб Кітай перастаў нерваваць свет, адмовіўся ад агрэсіўных метадаў акупацыі (Тыбета і Тайваня). Адпраўной кропкай для ініцыявання такога сусветнага супраціву планам тэрытарыяльнай экспансіі Кітая з'яўляецца фармальнае прызнанне Тайваня і Тыбета ў якасці незалежных і суверэнных краін. Гэта пакажа Кітаю яго месца», — піша тыбецкая прэса ў Індыі.

# Тадэвуш Касцюшка — герой чорнага Майдану?

Алег НОВІКАЎ

**Шматлікія палякі раз'юшаныя акцыяй пратэстоўцаў-афраамерыканцаў, якія ў ноч на 1 чэрвеня размалявалі помнік Тадэвушу Касцюшку ў Вашынгтоне. Аднак ёсць і тыя, якія бачаць ва ўчынках вандалаў праяву павагі да спадчыны героя.**



Фота www.commons.wikimedia.org




Фота www.kafkadesk.org

Для справядлівасці варта сказаць, што помнікам Касцюшку пратэстоўцы не абмяжэўваліся. Пад руку вандалаў таксама трапіў манумент і ў гонар Казіміра Пулаўскага (1745–1799) — удзельніка Барскай канфедэрацыі, а пазней героя барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў.

Размалёўка помніка Касцюшку, як і трэба было чакаць, атрымала шырокае асвятленне ў Польшчы і ў Палоніі (польскай дыяспары). Першымі на хуліганства адрэагавалі польская амбасада ў Вашынгтоне і бургамістр Варшавы. Пасол выказаў «агіду», а кіраўнік Варшавы заявіў пра дапамогу ўладам Вашынгтону ў "аднаўленні помніка». Сваю дапамогу Палоніі ў рэстаўрацыі паабяцаў Анджэй Дуда — прэзідэнт, прадстаўнік кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Цікава, што некаторыя пабачылі ў падзеях у Вашынгтоне руку Масквы, якая, маўляў, адпомсціла польскаму ўраду за дэмантаж помнікаў савецкім жаўнерам.

Натуральна, скандал вакол помніка Касцюшку аказаўся ўпісаны ў актуальны палітычны працэс. Тым больш, што палітычная сітуацыя за Бугам вельмі гарачая. Усё праз прэзідэнцкія выбары, якія павінны былі адбыцца яшчэ 10 траўня, але іх перанеслі на больш позні тэрмін праз эпідэміялагічную сітуацыю ў краіне. Цяпер ва ўрадзе плануюць правесці выбары 28 чэрвеня.

Згодна з апытаннямі сацыёлагаў, Дуда перамагае ў першым туры выбараў. За яго гатовыя прагаласаваць 41,2% рэспандэнтаў. Кандыдат ад апазіцыйнай «Грамадзянскай кааліцыі» Рафал Тшаскоўскі можа атрымаць 27% падтрымкі. Але ў другім туры Дуду не варта спадзявацца на лёгкую перамогу.

Каб узняць рэйтынг Дуды, падаецца, давялося пускаць у ход і Касцюшку. У праграме Wiadomości на галоўным афіцыйным канале TVP пабачылі сувязь паміж левадыкальным рухам Antifa, які Трамп зрабіў адказным за цяперашнія пратэсты, і ...Рафалам Тшаскоўскім.

Між тым, ёсць і іншая трактоўка апошніх пагромаў у Вашынгтоне. Левыя і ліберальныя каментатары сцвярджаюць, што Касцюшка, калі б жыў цяпер, сам далучыўся б да пратэстаў — і больш за тое, абавязкова накрэмзаў бы нешта брутальнае на помніку ў свой гонар.

«Касцюшка заўсёды падтрымліваў свабоду, пераразмеркаванне маёмасці і руйнаваў пануючы грамадскі лад, які ён лічыў несправядлівым. Гэта значыць, ён змагаўся за тое самае, за што і ўдзельнікі акцыі пратэсту ў ЗША пасля смерці Джорджа Флойда. Памяць пра Касцюшку будзе жыць толькі ў тым выпадку, калі мы будзем працягваць яго справу барацьбы за ідэі свабоды і справядлівасці», — мяркуе варшаўскі сацыёлаг Адам Астолскі.

Пан Астолскі і яго аднадумцы агучваюць малавядомы факт пра намер Касцюшкі выдаткаваць усе сродкі, якія зарабіў у Амерыцы, на выкуп рабоў. Ён лічыў — як і многія рэфарматары таго часу, — што існуе падабенства паміж статусам чорных рабоў у Амерыцы і польскіх прыгонных сялян.

Увогуле, на думку левых і лібералаў, польская медыя занадта шмат увагі надаюць пагромам крамаў і актам вандалізму падчас дэманстрацый, ігнаруючы праблемы расізму і паліцэйскага гвалту. «Грамадскі дыскурс у Польшчы прасякнуты бяздумнымі расавымі катэгорыямі», — канстатуе выданне Око.

Найбольш далёка ў справе рэабілітацыі «вандалаў» пайшлі ініцыятары адной цікавай інтэрнэт-петыцыі. Яны заклікаюць муніцыпалітэт Вашынгтона захаваць надпісы вандалаў у арыгінальным выглядзе як даніну памяці пра «чорнае паўстанне Касцюшкі». Ужо агучаны намер выставіць надпісы на помніку на варшаўскай Біенале – фестывалі сучаснага мастацтва.

Застаецца дадаць, што «вандалы», якія размалявалі манумент у Вашынгтоне, наогул не здагадваюцца, якую хвалю яны справакавалі на берагах Віслы. Польскі журналіст у Вашынгтоне здолеў аператыўна апытаць аднаго з аўтараў графіці. Хлопец не здолеў адказаць на пытанне, нашто яны «пакрыўдзілі» помнік. Пратэстанты, па словах хлопца, увогуле не ведалі, чый помнік атакавалі. А вось прысутная побач дзяўчына лепш сфармулявала свае думкі. «Людзі хацелі выказаць свой гнеў і расчараванне сістэмай», — сказала яна, дадаўшы, што «палякі не павінны крыўдзіцца на іх за гэта».

> **«Вандалы», якія размалявалі манумент у Вашынгтоне, наогул не здагадваюцца, якую хвалю яны справакавалі на берагах Віслы. Адзін з аўтараў графіці не здолеў адказаць на пытанне, нашто яны «пакрыўдзілі» помнік. Пратэстанты ўвогуле не ведалі, чый помнік атакавалі**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Хрысціянская камуна ўсяго свету, і перш за ўсё грэчаская, трывожна абмяркоўвае магчымыя наступствы візіту кіраўніка Турцыі ў стамбульскі сабор Святой Сафіі — сусветна вядомы помнік візантыйскага дойлідства. Сабор доўгі час быў мячэццю, а сёння з'яўляецца музеем.

З сабой турэцкі гарант прыхапіў Каран, каб памаліцца і зачытаць адну з сур. Многія ўбачылі ва ўчынку прэзідэнта сімвалічны падтэкст. Па-першае, менавіта ў канцы траўня 1453 года асманы захапілі Канстанцінопаль і ператварылі Святую Сафію ў мячэць. Па-другое, Эрдаган дэманстратыўна праігнараваў запавет Кемаля Атацюрка — аўтара праекта турэцкай рэспублікі. Атацюрк, што быў свецкім палітыкам, пасля прыходу да ўлады загадаў закрыць мячэць і стварыць там агульнадаступны для прадстаўнікоў усіх веравызнанняў музей. Менавіта таму перспектыва вяртання комплексу статусу духоўнай установы з'яўляецца запаветнай марай клерыкальных туркаў.

Не дзіўна, што адразу пасля згаданай вышэй малітвы Эрдагана з'явіліся спекуляцыі, што Святая Сафія хутка зноў стане мячэццю. На іх былі вымушаны рэагаваць у Афінах, якая вуснамі віцэ-прэм'ера афіцыйна заявіла, што «статус сабора Святой Сафіі як музея не варта мяняць». Цяпер мяч на турэцкім баку, і застаецца пачакаць заяваў і дзеянняў Анкары наконт лёсу культурнага помніка.

### Борыс Джонсан



Еўрапейская медыя абвінавацілі кабінет Джонсана і персанальна прэм'ера Вялікабрытаніі ў «дыпламатычы кананерак» — палітычным курсе, пры якім выкарыстоўваецца дэманстратыўная праекцыя сілы з ужываннем ваенна-марскога флоту.

Менавіта да гэтага, як піша прэса, вырашыў звярнуцца Лондан, дамагаючыся саступак ад Бруселю ў пытанні аб доступе да лоўлі рыбы ў брытанскіх водах. Правы еўрапейскіх фірмаў на рыбную лоўлю з'яўляюцца адным з ключавых пытанняў на перамовах па Brexit. Пакуль абодва бакі не знайшлі агульнай мовы. Між тым 11-месячны пераходны этап па выхадзе Вялікабрытаніі са складу ЕС павінен скончыцца 31 снежня — гэта апошні тэрмін для заключэння гандлёвай здзелкі.

Мяркуючы па ўсім, для ўзмацнення сваёй пазіцыі Вялікабрытанія вырашыла падключыць Каралеўскі флот, які збіраюцца накіраваць курсіраваць у памежнай марской зоне. Адпаведная просьба накіравана ў Міністэрства абароны.

На думку брытанскай апазіцыі, такія дзеянні вельмі рызыкоўныя і могуць скончыцца ледзь не сілавым супрацьстаяннем, як гэта было ў часы «халоднай вайны». Да «халоднай вайны» справа наўрад ці дойдзе, аднак вострых эмоцый варта чакаць. Раней галоўны перамоўшчык ад ЕС Мішэль Барні паставіў перад Лонданам ультыматум: ці Брытанія будзе выконваць узятыя на сябе першапачатковыя абавязацельствы, ці застанецца без здзелкі.

### Дзмітрый Чарнышэнка



Намеснік старшыні ўрада РФ заявіў, што ўжо гэтай восенню ў Расіі можа пачацца масавая вакцынацыя ад каронавіруснай інфекцыі. Па словах віцэ-прэм'ера, расійскія навукоўцы працягваюць працаваць над стварэннем вакцыны ад COVID-19, і вынікі гэтай працы хутка з'явяцца. «У выпадку поспеху восенню ўжо можна будзе пачаць масавую вакцынацыю», — падзяліўся планамі Чарнышэнка. Ён таксама дадаў, што да гэтага часу расіянам давядзецца навучыцца «жыць з улікам тых рызыкаў, якія нясе інфекцыя».

Раней Міністэрства абароны Расіі абрала сярод вайскоўцаў добраахвотнікаў для правядзення клінічных выпрабаванняў вакцыны ад каронавіруса. Праўда, некаторыя антыпуцінскія медыя лічаць, што чыноўнік паабяцаў вакцыну, каб узняць тонус грамадзян і прыцягнуць іх прагаласаваць за папраўкі ў Канстытуцыю на рэферэндуме 1 ліпеня.

Цікава, што звыклай вакцынацыі ў форме індывідуальных прышчэпак можа і не быць. Піцерскія навукоўцы распрацоўваюць вакцыну ад вірусу, якая можа ўводзіцца ў арганізм у выглядзе кісламалочнага прадукту. Прасцей кажучы — праз ужыванне напою, падобнага на звычайны ёгурт. Ідэя ёгурта ад віруса выклікала супярэчлівую ацэнку сярод часткі расіян. На інтэрнэт-форумах многія патрабуюць выпускаць вакцыну ў выглядзе каньяку.

# «Гурман ад мастацтва» Кім Хадзееў і яго ўніверсітэты

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» выпусціў зборнік дакументаў «“Бязродны касмапаліт” Кім Хадзееў ды іншыя». Кніга выйшла ў серыі «Беларуская турэмная літаратура». Яе ўкладальнік — гісторык і аўтар гэтага артыкула.**

Кім Хадзееў (1929–2001) — мінскі інтэлігент, культуролаг і філосаф, які дзесяцігоддзямі аб'ядноўваў вакол сябе нонканфармісцкую творчую моладзь (і не толькі моладзь). Уласных твораў ён пакінуў вельмі мала, але пастаянна выступаў кансультантам і рэдактарам для паэтаў, тэатральных рэжысёраў і людзей розных іншых заняткаў. Кватэра Хадзеева была цэнтрам прыцягнення, куды можна было прыйсці па параду ў інтэлектуальнай сферы і дзе можна было знайсці сабе аднадумцаў ці калег для ажыццяўлення нейкай творчай задумы.



**Кім Хадзееў. Фотаздымак з экзаменацыйнага аркуша пры паступленні ў БДУ. 1947 год**

Постаць Кіма Хадзеева прыцягвае да сябе ў апошнія гады заўважную цікавасць. Яму прысвячаюцца вечары памяці, артыкулы, раздзелы ў кнігах. Перавыдаюцца яго артыкулы. Нарэшце, у 2019 годзе пра яго быў выдадзены зборнік успамінаў.

У зборніку «“Бязродны касмапаліт” Кім Хадзееў ды іншыя» сабраныя дакументы, якія асвятляюць дзве крымінальныя справы супраць культуролага і звязаныя з імі падзеі.

Адным з першых пра Хадзеева напісаў ва ўспамінах «Мой город» (2005) Алег Белавусаў. Яшчэ раней, у 2000 годзе, Белавусаў запрасіў яго ў тэлеперадачу «Бар “У Олега”», якую вёў на 8-м канале. Зборнік «“Бязродны касмапаліт” Кім Хадзееў ды іншыя» адкрываецца тэкстам гэтай гутаркі. Падчас размовы Хадзееў распавёў пра розныя перыяды свайго жыцця — дзяцінства, студэнцкія гады, час зняволення, сталасць. Публікацыя на паперы дазваляе пракаментаваць рэаліі, якія абмярконўвалі суразмоўцы, услухацца ў прозвішчы, якія называў інтэлігент. Так, дзякуючы падрыхтоўцы тэксту да публікацыі атрымалася ўстанавіць асобу аднаго са зняволеных Ленінградскай турэмнай псіхіятрычнай бальніцы (ЛТПБ), з якім таварышаваў Хадзееў, — эканаміста Навума Калужскага.

Упершыню Кім Хадзееў сутыкнуўся з палітычным пераследам, калі быў выключаны з філалагічнага факультэта БДУ загадам рэктара №50 ад 11 сакавіка 1949 года «за сістэматычнае ненаведванне заняткаў». Завязкай гісторыі паслужыў культпаход студэнтаў універсітэта на спектакль «Князь-возера» ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР у студзені 1949 года. Балет (у тым сезоне — прэм'ерны) быў пастаўлены на музыку Васіля Залатарова рэжысёрам Барысам Мардвінавым і балетмайстрам Канстанцінам Мулерам. Трое студэнтаў БДУ, якім даручылі выступіць на абмеркаванні прэм'еры, пакрытыкавалі балет за ўвядзенне драматычных сцэн. Імёны гэтых студэнтаў: Кім Хадзееў, Аляксандр Шлык і Разіта Калпакчы, усе трое сябравалі.

У лютым 1949 года новы штуршок набыла кампанія па барацьбе з «бязродным касмапалітызмам». У БССР яе «падагрэў» XIX з'езд КП(б)Б, які прайшоў 15–18 лютага 1949 года. Трох студэнтаў сталі бэсціць за «бязродны касмапалітызм» і «эстэцтвуючы фармалізм» як «падрастаючых гурманаў ад мастацтва». Шлык і Калпакчы пакаяліся ў сваіх эстэтычна-палітычных «грахах» на адпаведных партыйна-камсамольскіх сходах, Хадзееў не толькі не пакаяўся, але і зрабіў больш рэзкія выказванні. Сяброўства скончылася, як скончылася і вучоба Хадзеева ў БДУ.

Кампаніі па барацьбе з «бязродным касмапалітызмам» і месцы Кіма Хадзеева ў ёй у кнізе прысвечаны артыкул «Падгалоскі эстэцтвуючых фармалістаў» са шматтыражкі БДУ «За сталінскія кадры», інтэрв'ю з вядомым беларускім журналістам Уладзімірам Няхамкіным (Мехавым), які ў той час вучыўся на філфаку БДУ, і вытрымка з пратакола пасяджэння партбюро БДУ, на якім разбіралі персанальную справу Аляксандра Шлыка.

6 лютага 1951 года Кім Хадзееў быў арыштаваны супрацоўнікамі Міністэрства дзяржбяспекі БССР. Яго абвінавацілі ў «антысавецкай агітацыі» (артыкул 72 Крымінальнага кодэксу БССР). На жаль, мы не ведаем, што канкрэтна ставілася ў віну Хадзееву. Сам ён пазней сцвярджаў, што заклікаў забіць Сталіна, але яго словы ані пацвярджаюцца, ані абвяргаюцца іншымі крыніцамі. Суд накіраваў яго на прымусовае «лячэнне» ў Ленінградскую турэмную псіхіятрычную бальніцу (ЛТПБ).




**Вокладка кнігі**

ЛТПБ у першай палове 1950-х гадоў была напоўненая палітычнымі вязнямі, а рэжым у ёй быў нашмат лягчэйшы за рэжым у сталінскіх лагерах. У ЛТПБ Хадзееў знайшоў сабе кампанію па душы. У прыватнасці, ён пасябраваў з маладзёнамі з Масквы: Юрыем Айхенвальдам, Аляксандрам Асарканам і Паўлам Уліцыным. Айхенвальд пасля выхаду са зняволення стаў паэтам і перакладчыкам, Асаркан — вядомым тэатральным крытыкам, Уліцін ужо на час арышту (другога ў сваім жыцці) быў авангардыстам, пісьменнікам-пачаткоўцам. Пра гады зняволення ў ЛТПБ і пра мастацкую самадзейнасць палітзняволеных ідзе размова ў артыкуле Юрыя Айхенвальда «Театр в сумасшедшем доме», таксама апублікаваным у зборніку.

Пасля смерці Сталіна палітвязняў сталі выпускаць з ЛТПБ. 15 лютага 1954 года на волю выйшаў і Хадзееў. Ён накіраваўся ў Мінск, дзе закончыў вышэйшую адукацыю на завочным аддзяленні педагагічнага інстытута і нават павучыўся ў аспірантуры. Але да абароны дысертацыі справа не дайшла. Хадзееў уладкаваўся на працу ў кніжны гандаль і стаў гуртаваць вакол сябе студэнцкую моладзь, ласую (часы «адлігі»!) на паўзабароненыя веды. Не губляў ён сувязяў і са сваімі маскоўскімі сябрамі, якія дзяліліся з ім самвыдатам.

> Шлык і Калпакчы пакаяліся ў сваіх эстэтычна-палітычных «грахах» на адпаведных партыйна-камсамольскіх сходах, Хадзееў не толькі не пакаяўся, але і зрабіў больш рэзкія выказванні. Сяброўства скончылася, як і вучоба Хадзеева ў БДУ

Сярод іншага самвыдату праз Хадзеева трапілі ў Мінск творы Паўла Уліціна «Табу» і «Анти-Асаркан». Хадзееў не толькі чытаў іх сам, але і даваў пачытаць сябрам. Калі беларускі КДБ вырашыў разагнаць кампанію Хадзеева, гэтыя кнігі былі выкарыстаны як падстава для пачатку крымінальнай справы. Гэта былі кнігі мастацкай прозы, а не палітычныя трактаты. Тым не менш, Павел Уліцін дазваляў сабе ў іх жарты на палітычныя тэмы. Вось, напрыклад, вытрымкі з пароды на гімн Савецкага Саюза з кнігі «Табу»:

*...Союз угнетенных республик голодных*
*Тюрьмою народов, жандармом Европы*
*Сделалась ныне Великая Русь*
*Будь проклят ты, созданный*
*Сталинским строем голодный и злобный...*
*... Сгинь ты, правительство антинародное,*
*Горе России, нещадное зло.*
*Знамя Советское, но не народное*
*Честных людей до тюрьмы довело.*

На жаль, поўныя тэксты «Табу» і «Анти-Асаркан» нам недасяжныя — кнігі захоўваюцца ў архівах КДБ.

КДБ БССР 25 студзеня 1962 года арыштавала ў Мінску Кіма Хадзеева і акцёра Эдуарда Гарачага, які браў у Хадзеева кнігі Уліціна і, у сваю чаргу, даваў пачытаць сваім сябрам і калегам. 7 лютага ва Уліціна ў Маскве па справе Хадзеева і Гарачага прайшоў вобшук, забралі ўсе яго творы (і потым ніколі не вярнулі). У Мінску па справе дапытвалі некалькі дзясяткаў чалавек — сяброў і знаёмых Хадзеева і Гарачага, у многіх прайшлі вобшукі. Некалькі чалавек выключылі з універсітэта ды інстытутаў.

Кім Хадзееў зноў быў накіраваны ў ЛТПБ. Ён выйшаў адтуль 8 ліпеня 1963 года. Эдуард Гарачы быў асуджаны па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда» да двух гадоў пазбаўлення волі, адбыў іх у Мардоўскіх лагерах для палітзняволеных. Павел Уліцін, як ні дзіўна, да адказнасці не прыцягваўся. Пра гэтую крымінальную справу ў зборніку «“Бязродны касмапаліт” Кім Хадзееў ды іншыя» пададзеныя дакументы наглядчага наглядання Пракуратуры СССР. Справа аб наглядным вядзенні менш інфарматыўная, чым следчая ці судовая справа. Але яна дае некаторае ўяўленне і пра творы Уліціна, якія паслужылі нагодай для следства, і пра паводзіны Хадзеева ў часе следства, і пра ўнутраныя дыскусіі ў КДБ па пытанні, ці можна было расцэньваць творы Уліціна як «антысавецкія».

Пасля чарговага выхаду са зняволення Хадзееў зноў вярнуўся ў Мінск і далей працягваў гуртаваць вакол сябе моладзь. Праз яго кватэру прайшлі некалькі пакаленняў рознага кшталту творцаў. У асяроддзі Хадзеева працягвалі чытаць самвыдат, за асяродкам пільна сачыў КДБ, але саджаць яго больш не саджалі.




# Варце абароны Курапатаў — два гады

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Супрацьстаянню абаронцаў Курапатаў з уласнікамі рэстарана «Поедем поедим», пабудаванага ў зонах аховы мемарыяла, 1 чэрвеня споўнілася два гады. За гэты час дзякуючы штодзённай Варце аматараў паесці побач з чалавечым могільнікам паменела. Але і сама Варта стала слабейшай. Які плён прынёс гэты пратэст і якія ў яго перспектывы, распавядаюць тыя, хто ад пачатку і да сёння працягвае выходзіць на Варту абароны Курапатаў.**

### «Варта паказвае, што беларусы будуць стаяць за Беларусь»

Па словах сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Севярынца, на Варце цяпер звычайна ад аднаго да некалькіх чалавек штодня. Цяжэй было зімой і ў пачатку вясны, цяпер сітуацыя палепшылася.

Павел Севярынец адзначае, што Варта, хоць не такая шматлікая, як напачатку, але працягвае стаяць. І будзе стаяць, пакуль сюды будуць прыходзіць людзі: «Беспрэцэдэнтная, самая працяглая штодзённая акцыя пратэсту ў гісторыі Беларусі доўжыцца, і сімвалічна, што яна праходзіць менавіта ў Курапатах. Цікавасць да Курапатаў не знікае, а зацяняецца пандэміяй, "выбарамі", іншымі падзеямі. Беларусі як краіне і беларусам як нацыі наканавана вяртацца да курапацкага крыжа як сістэмы каардынатаў».

Шэраг партый і рухаў, напачатку актыўных у абароне Курапатаў, паступова адкалоліся. У БХД, па словах суразмоўцы, — поўнае адзінства наконт падтрымкі Курапацкай варты, хоць не ва ўсіх атрымліваецца прыязджаць і стаяць. Палітык пералічвае: за мінулыя два гады сюды прыязджалі цэлыя дэлегацыі БХД з Віцебска, Гродна, Магілёва, Брэста, Баранавічаў, Слоніма, Оршы, Маладзечна, Полацка, Мёраў, Мінскага раёна, мінчукі. Цяпер праз каронавірус цяжка дабірацца здалёк, таму часцей прыязджаюць некалькі чалавек з Мінска. Сярод іх — штосераду на Варце сам Павел Севярынец.

«Курапацкая варта — гэта своеасаблівы чуйнік, які паказвае грамадству і Крамлю, што беларусы будуць стаяць за Беларусь. У сцюжу, у дождж, перад ашалелымі наведнікамі, у пандэмію — стаяць».

Галоўным вынікам двухгадовага супрацьстаяння Павел Севярынец уважае тое, што людзі не едуць у «Поедем поедим». Хтосьці лічыць амаральным ехаць у рэстаран, хтосьці баіцца «засвечвання» ў створанай абаронцамі базе даных, хтосьці завітаў першы і апошні раз, атрымаўшы буклет і вусную інфармацыю пра гэтае месца.

«Думаю, Госпад дапусціў гэтую сітуацыю з "Бульбаш-холам" якраз да 30-годдзя адкрыцця Курапатаў дзеля таго, каб беларусы яшчэ раз згадалі страшную праўду пра масавыя забойствы камуністычных часоў. І зноў падымаецца хваля праўды пра бясконцыя беларускія галгофы: Хайсы, Шчакатоўскі лес, Кабыляцкую гару, Трасцянец, Парк Чалюскінцаў, Лошыцу... Дзякуй журналістам, навукоўцам, аўтарам расследаванняў. Без памяці, без пакаяння — няма адраджэння. Такога розгаласу не было б, калі не было б Курапацкай варты».

На думку Паўла Севярынца, памятны знак з шыльдай пра палітычныя рэпрэсіі 1930–1940-х гадоў, нягледзячы на няўдалае размяшчэнне, — усё ж прызнанне факту масавых савецкіх рэпрэсій з боку ўлады.

«На Курапацкую варту прыйшло цэлае пакаленне маладых патрыётаў. Мы пазнаёміліся шмат з кім. Ведаеце, гэта добры тэст — "стаялі разам на Варце". Братэрства. І такіх людзей сотні — ім вялікая падзяка. Варту зрабілі людзі».

### «Курапацкая варта — моцная школа выжывання»

Для грамадскай актывісткі Ганны Шапуцька гэта былі два гады адкрытага супрацьстаяння з тымі, хто пакрывае парушэнні заканадаўства на тэрыторыі мемарыяла і ў зонах яго аховы, а таксама наведвальнікамі «Бульбаш-хола».

«Я не аддзяляю "рэстарацыю смерці" (назва народная) ад Курапатаў. Рэстарацыя знаходзіцца ў зонах аховы мемарыяла Курапаты, усяго ў 50 метрах ад мяжы вялізарнага чалавечага могільніка. Варта — гэта голас ахвяраў, знішчаных у Курапатах, напамін аб страшных часах дзяржтэрора, якія могуць паўтарыцца, калі большасць заплюшчыць вочы на курапацкія крыжы і замест ушанавання памяці будзе адпачываць у рэстарацыі з відам на месца забойства», — мяркуе Ганна Шапуцька.

Галоўным дасягненнем Курапацкай варты і агульнай перамогай актывістка лічыць байкот беларусамі рэстарацыі (яна стаіць фактычна пустая), інфармацыйны розгалас пра Курапаты, захаванне ў памяці беларусаў злачынстваў НКУС, асэнсаванне ролі сучаснай дзяржавы, якая, лёгка вырваўшы курапацкія крыжы, можа знайсці апраўданні забойствам тысяч людзей.

Па словах Ганны Шапуцька, Варта будзе працягвацца і далей, але, магчыма, у іншым фармаце, які ўжо крыху змяніўся.

«Падчас пандэміі стала вельмі небяспечна прыходзіць на Варту вялікімі групамі. Некаторыя абаронцы, напрыклад, Рух Салідарнасці "Разам", прыпынілі свой удзел на час пандэміі. Некаторыя захварэлі ці вымушаныя былі сысці на карацін. У той жа час каронавірус звёў да мінімуму і так невялікую колькасць наведвальнікаў рэстарана, фактычна, няма каму раздаваць улёткі. Таму новы фармат Курапацкай варты — серада, пятніца, субота, нядзеля з 16.00 да 20.00».

Ганна Шапуцька перакананая, што Курапацкая варта стала сімвалам духоўнага змагання, непахіснасці, непамяркоўнасці. Яе неад'емнай часткай павінна заставацца малітва за ахвяраў рэпрэсій і за Беларусь. Варта павінна трываць, пакуль у Беларусь не прыйдуць перамены і пакуль не міне пагроза знішчэння мемарыяла Курапаты.

«Курапацкая варта — гэта выпрабаванне як фізічнае, так і духоўнае. Няпроста стаяць у спёку і мароз, але яшчэ цяжэй размаўляць з варварамі-наведвальнікамі, выслухоўваць іх абразы, пагрозы. Курапацкая варта, насамрэч, — моцная школа выжывання. Мне здаецца, што я стала больш цярплівай, больш разважлівай, больш абароненай і моцнай. Важна, што побач з табой — людзі, блізкія па духу, людзі-цвікі, нязломныя і непераможныя. Вялікі дзякуй усім абаронцам мемарыяла, што гэтыя два гады былі побач. Нас сапраўды шмат. Не ўсё можна хутка змяніць, магчыма, і не трэба, бо Бог наканаваў нам, беларусам, прайсці свой шлях да переменаў, да перамогі. Я веру, што ўздымецца хваля беларускай салідарнасці, беларусы пазбавяцца духу камунізму, атрымаюць доўгачаканую свабоду, а душы курапацкіх ахвяраў — спакой. Трымаемся. Жыве Беларусь!»

### «Нам хочацца адразу пажаць, хоць яшчэ зерне не дакранулася да зямлі»

Разважаючы пра дасягненні двухгадовага супрацьстаяння, грамадскі дзеяч Зміцер Дашкевіч зазначае, што выходзіў на Варту не дзеля таго, каб нечага дасягнуць.

«Я задаваў сабе пытанне: "Што правільна цяпер зрабіць?", як і ў 2017 годзе. Тады была перамога з Неба — па-чалавечы гэтага нельга было зрабіць, і на трэці дзень мы маліліся, каб нас проста пасадзілі і каб не давялося з ганьбай самім сыходзіць».

Згадваючы, як згарнулася будоўля ля Курапатаў у 2017 годзе, Зміцер Дашкевіч спадзяваўся, што ў гаспадароў рэстарана хопіць розуму не распачынаць сваю дзейнасць у 2018-м.

Суразмоўца прызнаецца, што стаіць у Курапатах для сябе: прыйдзе дзень, калі Бог ці гісторыя спытаюць: «Дзе ты быў, калі рабілася злачынства?».

Вяртаючыся да параўнання цяперашняй Курапацкай варты і абароны Курапатаў у 2017 годзе, актывіст гаворыць, што гэта дзве розныя сітуацыі: калі ў мінулы раз усё адбывалася на драйве барацьбы і супрацьстаяння, то цяпер гэта — доўгая карпатлівая праца. Менавіта таму ў 2017 годзе было адчуванне, што грамадзянская супольнасць аб'ядналася і здолела нешта зрабіць.

«Калі мы не разумеем, што азначаюць для Беларусі Курапаты, наўрад ці нешта зменіцца ў гэтай краіне. Было б значна горш, калі б рэстарацыя працавала, і тут нікога не было. А так — адзін, два, тры вар'яты прыходзяць. Хоць для мяне відавочна: прыйдзе дзень, калі не будзе гэтага рэстарана».

Дасюль не вядомы лёс усталяваных Дашкевічам і паплечнікамі крыжоў з заходняга боку мемарыяла, якія брутальна выдралі падчас мінулагодняга крыжалому. Але гэтая падзея застанецца ў гісторыі лукашэнкаўскай эпохі на ўзроўні з рэферэндумам 1995 года, калі на прэзідэнцкай адміністрацыі дралі бел-чырвона-белы сцяг, перакана괗 былы лідар «Маладога фронту».

«Паламаўшы гэтыя крыжы, улады вырашылі духоўна паламаць нас. Але Стась Карпаў мяне суцяшаў: "Не плач, Зміцер, стаяць твае крыжы, яны яшчэ вышэйшыя"».

«Часам думаеш — ну што я такога зрабіў? А ёсць людзі, якія за гэтым сочаць. Адно з такіх сведчанняў прачытаў у дзяўчыны ў Фэйсбуку. Яна піша, што ўжо сабрала рэчы, дзіця і збіралася з'язджаць. Але паглядзела, што людзі стаяць у Курапатах, ставяць крыжы і сказала сабе: "Не, я застаюся і буду размаўляць па-беларуску са сваім дзіцем". Дзеля аднаго такога сведчання варта было стаяць два гады. А я маю нахабства думаць, што яно не адно. Усё дае свой плод. Мы можам і не бачыць, але мы тут сеем. Нам хочацца адразу пажаць, хоць яшчэ зерне не дакранулася да зямлі»».

Самога Змітра Курапацкая варта перамяніла настолькі, што ён сам здаецца сабе іншым чалавекам. Галоўнае, што ён зразумеў, — гэта неабходнасць шчыра ацэньваць сілы, якія ёсць. Праблема палітычнага руху Беларусі ў тым, што мы ўсе ўяўляем, быццам маем сілу. Партыі гавораць пра тысячы сваіх актывістаў, абаронцы Курапатаў — пра тое, што беларускі народ стане і памрэ за мемарыял. А насамрэч сілы вельмі малыя.

# БагатаДата

**Хто б мог падумаць, што Палац Рэспублікі ў Мінску спраектаваў член Ценявога ўраду Апазіцыі БНФ і ўдзельнік галадоўкі пратэсту супраць рэферэндуму–1995? Іншыя цікавыя факты — у нашым традыцыйным аглядзе.**



### 6 чэрвеня

**1945.** Савет Народных Камісараў БССР заснаваў у Брэсце настаўніцкі інстытут. Цяпер гэта Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт.

**1950.** У вёсцы Кляны Дубровенскага раёна на Віцебшчыне нарадзіся драматург Аляксей Дудараў. Старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. Аўтар папулярных п'ес «Вечар», «Радавыя», «Чорная панна Нясвіжа». Аўтар сцэнарыя мастацкага фільма «Белыя Росы».

**1955.** Ва ўкраінскім Мікалаеве нарадзіўся акцёр-комік Яўген Крыжаноўскі. Стваральнік і кіраўнік тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор». Служыў у Купалаўскім тэатры, здымаўся ў некалькіх мастацкіх фільмах (напрыклад, «Ідзі і глядзі»).

### 7 чэрвеня

**Сусветны дзень бяспекі харчовых прадуктаў.**

**1880.** У фальварку Лябёдка Шчучынскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч Вацлаў Іваноўскі. Стварыў у Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — «Загляне сонца і ў наша ваконца», выдаў першы беларускі буквар. Міністр асветы БНР, рэктар Мінскага педінстытута. Бургамістр Мінска падчас Другой сусветнай вайны з 1942 года і да самой смерці ў выніку тэракту напрыканцы 1943-га.

### 8 чэрвеня

**Сусветны дзень акіянаў.**



**1895.** У вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч і літаратуразнаўца Ігнат Дварчанін. Выкладаў беларускую літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі. Абіраўся ад Навагрудскай выбарчай акругі ў польскі Сейм. Быў арыштаваны польскімі ўладамі і прысуджаны да 8 гадоў турмы. Вызвалены ў выніку абмену палітзняволенымі паміж Польшчай і СССР. Стаў выканаўцам абавязкаў дырэктара Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР. У 1933-м арыштаваны ДПУ па «справе Беларускага нацыянальнага цэнтру». Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена на 10 гадоў лагераў. У 1938 годзе адбыўся новы суд, пасля якога Дварчанін быў расстраляны.

### 9 чэрвеня

**Міжнародны дзень сяброў.**

### 10 чэрвеня

**1925.** Янку Купалу першаму прысвоілі званне народнага паэта Беларусі ў сувязі з 20-годдзем яго творчай дзейнасці. Разам са званнем класік беларускай літаратуры атрымаў вельмі вялікую ў той час пажыццёвую пенсію ў памеры 180 рублёў.

**1955.** У вёсцы Аркадзія пад Брэстам нарадзіўся архітэктар і палітык Лявонцій Зданевіч. Дэпутат Вярхоўнага савета ў першай палове 1990-х гадоў, сябар Ценявога ўраду Апазіцыі БНФ, удзельнік галадоўкі пратэсту супраць рэферэндуму–1995 па пытаннях аб наданні рускай мове статусу дзяржаўнай і змяненні дзяржаўных сімвалаў (герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага сцяга), а таксама аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і праве прэзідэнта распускаць парламент. Яго самыя вядомыя архітэктурныя праекты: пасольства Украіны ў Мінску, Палац Рэспублікі.

### 11 чэрвеня

**1945.** У Гродне нарадзіўся архітэктар Віктар Крамарэнка. Асноўныя працы: санаторый «Беларусь» у літоўскіх Друскеніках, кінатэатр «Масква» ў Мінску, стэла «Мінск — горад-герой», новы чыгуначны вакзал у сталіцы, Нацыянальная бібліятэка і помнік Скарыну каля яе.

### 12 чэрвеня

**1895.** У фальварку Кур'янаўшчына Лагойскага раёна на Міншчыне нарадзіўся тэатральны дзеяч, драматург Леапольд Родзевіч. У 1920-я гады рэдагаваў шэраг газет у Вільні і Мінску. Аўтар п'ес «Пакрыўджаныя», «Блуднікі», «Збянтэжаны Саўка», «Багаты і бедны», «Конскі партрэт». У 1933 годзе арыштаваны і высланы ў Саратаў, у 1938-м пасля паўторнага арышту загінуў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Паспейце падпісацца!

**Шаноўныя чытачы!**

Ужо зусім хутка, 26 чэрвеня, заканчваецца тэрмін, калі можна аформіць падпіску на газету «Новы Час» **на ІІ паўгоддзе. Кошт падпіскі на 6 месяцаў — 22 рублі 98 капеек.**

Для кагосьці з вас гэта адчувальная сума, таму ёсць магчымасць аформіць падпіску **на 3 месяцы за 11 рублёў 49 капеек**, ці нават падпісвацца штомесяц за **3 рублі 83 капейкі.** Падпісацца можна ў паштовым аддзяленні, а таксама праз інтэрнэт на сайце РУП «Белпошта».

Толькі, калі ласка, не забывайце, што трэба паспець падпісацца **да 25-га дня кожнага месяца.**

Для вас, нашы чытачы, мы пра панує адмысловую віктарыну. **Кожны месяц** у нашых артыкулах мы будзем шыфраваць адно слова (пра тое, у якім артыкуле будзе гэта слова, вы даведаецеся на апошняй старонцы апошняга нумару месяца). У выніку атрымаецца сказ, які трэба будзе даслаць на наш электронны альбо паштовы адрас ці ў паведамленні ў сацсетках **да 20 снежня 2020 года.** Тузін першых, хто дашле нам зашыфраваны сказ, атрымае ад рэдакцыі памятныя прызы.

«Новы Час» — адзіная ў краіне штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная беларускамоўная газета. Для нас вельмі важна ваша падтрымка. Без вас газета даўно б перастала існаваць. Мы вельмі цешымся, што вы ў нас ёсць. Але заклікаем: падпішыце сваіх сяброў, сваякоў ці проста суседзяў.

**Давайце разам пашыраць дэмакратычную беларускамоўную прастору. Давайце разам рабіць нашу краіну лепшай!**

Для тых, хто робіць «Новы Час», гэта больш чым праца. Гэта частка жыцця. За сваю 18-гадовую гісторыю газета атрымлівала міжнародныя ўзнагароды, перажывала ўзлёты (і тады ў нас была магчымасць распаўсюджваць папяровую версію выдання бясплатна), зведала суды (мы вельмі ўдзячныя вам за падтрымку ў той час), а таксама вельмі балючыя страты (у 2015-м гэты свет пакінуў галоўны рэдактар газеты Аляксей Кароль). Але пры любым раскладзе газета працягвала выходзіць.

І сёння, як ніколі, у такія складаныя часы, **мы вельмі спадзяемся на вашу падтрымку.** На тое, што вы, нашы любімыя чытачы, не дасце выданню загінуць. **Для нас важны кожны чытач, кожны падпісчык.**

Дэспатызм не можа існаваць у краіне да таго часу, пакуль не знішчаная свабода прэсы, казаў англійскі пісьменнік Чарльз Колтан. А наш беларускі класік Францішак Багушэвіч заклікаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...»

***Падтрымайце незалежную беларускамоўную прэсу. Будзьма разам! Будзьма з «Новым Часам»!***

**Падпісны індэкс 63279**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №933

Падпісана да друку 05.06.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.